# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 42 (252) 15—21 кастрычніка 1996 г. КОШТ 2500 РУБЛЁЎ


## ЗДАРОЎЯ ВАМ, ВІКТАР ЦІМАФЕЕВІЧ!





***Віктару Тураву, народнаму артысту СССР, народнаму артысту Рэспублікі Беларусь, лаўрэату Дзяржаўнай прэміі СССР, сябру нашай рэдкалегіі, 25 кастрычніка спаўняецца 60. "Культураўцы" шчыра віншуюць знанага майстра нацыянальнага кінематографа і зычаць яму доўгіх гадоў жыцця і новых таленавітых кінастужак!***

***Сёння Віктар Цімафеевіч выступае на старонках "Культуры" з эксклюзіўным матэрыялам, які раней нідзе не быў "агучаны" або надрукаваны. Ён тычыцца сяброўства з выдатным Чалавекам, Акцёрам і Бардам — Уладзімірам Высоцкім.***

*Матэрыял чытайце на стар. 7.*

## СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

# ВЫРАТУЕМ ХРАМ!



У Спаса-Праабражэнскай царкве горада Заслаўя ў суботу (19 кастрычніка) каля 22.00 гадзінаў пачаўся пажар. Калі карэспандэнты "Культуры" ў панядзелак наведалі месца здарэння (нас апярэдзілі толькі журналісты НТВ), тут яшчэ працавалі пажарнікі і прыкджане царквы на расчыстцы руінаў. Гэта самае моцнае разбурэнне, якому падвяргаўся храм на працягу апошніх дзесяцігоддзяў (ён захаваўся нават на працягу апошніх трох войнаў). Прычыны пажару яшчэ невядомыя, следчыя органы пакуль адмаўляюцца даць дакладную інфармацыю. Але можна высунуць дзве версіі — пажар адбыўся ў выніку самазапальвання электраправодкі і магічных свядомы падпал. На карысць апошняга меркавання кажа і той факт, што на сцяне храма быў зроблены невядомымі надпіс "Смерть христианам" і намаляваны сатанінскія анаграмы — перакулены праваслаўны крыж і пяціканцовая зорка ў коле.

Па папярэдніх меркаваннях святара — настаяцеля храма айца Мікалая, толькі матэрыяльныя выдаткі на аднаўленне храма складуць не менш 60 тысяч даляраў. Ужо пайшлі першыя перапічэнні ад арганізацый прыватных асоб. У бліжэйшы час трэба тэрмінова закансерваваць будынак, бо з наступленнем маразоў помнік можа атрымаць непапраўныя пашкоджанні.

Разліковы рахунак Спаса-Праабражэнскай царквы ва Упраўленні Белбізнесбанка па Мінскай вобласці 3015208020017 код 737.

Сябры, давайце дапаможам храму!

**Алесь ТУРОВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

*Больш падрабязны матэрыял пра гэта здарэнне чытайце ў наступным нумары.*

### Шаноўнае спадарства!

Ад імя Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь сардэчна віншую штотыднёвік "Культура" з першым юбілеем!

Наша Беларусь існуе многія стагоддзі, увесь гэты час фармавалася і шліфавалася яе высокая і непаўторная культура, пра якую на працягу пяці гадоў цікава і неардынарна распавядае сваім чытачам "Культура". Прыемна адзначыць, што свае артыкулы газета адрасуе не толькі творчай інтэлігенцыі, але і ўсім тым, для каго дарагія нашы багатыя культурныя традыцыі, хто шануе Роднае Слова і рупіцца пра беларускую Культуру, яе развіццё і далейшы росквіт.

Са старонак асветніцкага выдання са сваімі разважаннямі да ўдумлівага чытача звяртаюцца вядомыя пісьменнікі і паэты, мастакі і артысты, мастацтвазнаўцы і філосафы, іншыя дзеячы культуры — тыя, хто па-сапраўднаму з'яўляюцца нацыянальным здабыткам, нашым гонарам. Яны нясуць у свет веды, дабрыню, тонкія і светлыя пачуцці, духоўнасць.

Штотыдзень "Культура" адкрывае новыя імёны і таленты, якімі так багата наша Бацькаўшчына. Гаворачы словамі паэта, калі зоркі запальваюць, значыць, гэта камусьці патрэбна, значыць, гэта неабходна, каб яны былі!

Шчыра віншую калектыў шаноўнага выдання! Жадаю яго супрацоўнікам асабістага шчасця, добрага здароўя, узнёсласці і натхнёнасці, плённай працы на карысць дарагой Радзімы — Беларусі! Жадаю "Культуры" далейшага сталення, новых незвычайных адкрыццяў і доўгага творчага жыцця!

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**Сямён ШАРЭЦКІ**

17 кастрычніка 1996 года.

### Шаноўныя сябры!

Дзень 5-годдзя "Культуры" — гэта дзень 5-годдзя вялікага сяброўства ансамбля "Песняры" і нашай любімай газеты. На яе старонках мы не аднойчы мелі магчымасць сустракацца і гутарыць з чытачамі. І спадзяемся, што гэтыя сустрэчы будуць працягвацца яшчэ шмат гадоў. "Культура" аб'ядноўвае самыя высокія стваральныя памкненні творчых дзеячаў нашай дзяржавы. І калі б мы маглі прысутнічаць на Вашым свяце, мы б падарылі калектыву газеты і ўсім яе сябрам купалаўскую "Малітву". Здароўя Вам, сябры, шчырага кахання і творчага плёну!

**Народны артыст Рэспублікі Беларусь, народны артыст СССР, мастацкі кіраўнік Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры" Уладзімір МУЛЯВІН.**

### Калектыву рэдакцыі грамадска-асветніцкай газеты "Культура"

Дарагія сябры!

Беларускае таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі віншуе вас з пяцігоддзем з дня нараджэння газеты.

Вашыя талент і самаахвярнасць у яе стварэнні і выданні здолелі перамагчы ўсе перашкоды — і матэрыяльныя, і маральныя. Грамадскасць Беларусі ацаніла вашы творчыя намаганні па адраджэнні беларускага слова і культуры — у газеты ёсць чытач і не толькі на Беларусі.

Мы ўдзячныя вам і за тое, што пастаянна знаходзім на старонках "Культуры" інфармацыю аб дзейнасці Беларускага таварыства дружбы і яго замежных партнёраў, аб здабытках культуры народаў розных краін і ў першую чаргу — нашых блізкіх суседзяў.

Жадаем і надалей плёну і натхнення, радасці ад усведамлення неабходнасці сваёй працы для развіцця нацыянальнай культуры.

**Заўсёды з вамі**
**Беларускае таварыства дружбы**

У мінулы чацвер, 17 кастрычніка ў сталічным Доме літаратара адбылася ўрачыстая вечарына, прымеркаваная да пяцігоддзя юбілею і 250 нумара нашага штотыднёвіка.

Павіншаваць газету прыйшлі нашыя даўнія сябры. Сярод іх начальнік упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь Тадэвуш Стружэцкі, кампазітар Ігар Лучанок, маэстра Алег Алоўнікаў, галоўны рэдактар часопіса "Мастацтва" Аляксей Дудараў, галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Сяргей Законнікаў, сакратар Беларускага Саюза пісьменнікаў Алесь Пісьмянкоў, паэт Леанід Дранько-Майсюк, прарэктар Універсітэта культуры Аляксандр Смолік, прадстаўнікі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Першы Сакратар Польскага пасольства ў Рэспубліцы Беларусь Павел Пшэцішэўскі.

Цёплая і нязмушаная атмасфера вечарыны яшчэ раз пацвердзіла нашу едынасць вакол светлага абшару "Культуры".

Шчыра дзякуем усіх, хто падтрымлівае нашу газету ў гэты складаны час!

**"Культураўцы"**



# ЗВАРОТ

## да працаўнікоў культуры Рэспублікі Беларусь

Мы, дзеячы культуры і мастацтва Беларусі, выказваем заклапочанасць з прычыны палітычнай нестабільнасці, што ўзнікла ў нашым грамадстве. Творчая інтэлігенцыя добра ўсведамляе тое, што сёння вырашаецца лёс дзяржаўнасці беларускага народа, гістарычнай і духоўнай спадчыны нашай культуры.

Цалкам відавочна, што толькі паслядоўная праца ўсіх — рабочых, сялян, інтэлігенцыі, органаў дзяржаўнага кіравання, выбарных органаў і грамадскіх арганізацый, можа забяспечыць паступовае выйсце нашай краіны з эканамічнага крызісу, забяспечыць захаванне і ўмацаванне беларускай культуры.

За апошні час, пры існуючых аб'ектыўных цяжкасцях нашага жыцця, Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь былі зроблены першачарговыя крокі па паляпшэнні сацыяльнага становішча дзеячаў культуры і мастацтва: захаваны асноўны творчы патэнцыял краіны, устаноўлены спецыяльныя стыпендыі і прэміі для творчай моладзі, даплаты выдатным дзеячам культуры, падвышана заработная плата працаўнікоў Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы і балета. Трэба яшчэ вырашыць пытанні, звязаныя з арэндай майстэрняў мастакоў, памяшканняў творчых саюзаў і шэраг іншых пытанняў сацыяльнай падтрымкі.

Мы лічым неабходным на падставе праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь распрацоўку і прыняцце першачарговых мер па падтрымцы культуры і мастацтва, захавання духоўнай спадчыны, прапаганды творчасці беларускіх пісьменнікаў, кампазітараў, мастакоў, забеспячэння паўнавартаснага жыцця бібліятэк, музеяў, навучальных устаноў. Без удзелу культуры народа, без духоўнага аздараўлення нашага грамадства здзяйсненне эканамічных пераўтварэнняў немагчымае.

Таму дзеячы мастацтва і культуры сваёй творчасцю робяць уклад у духоўнае выхаванне народа і шчыра імкнуцца да стабільнасці і міру на беларускай зямлі. Мы падтрымліваем імкненне Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі вынесці на ўсенароднае абмеркаванне пытанні нашага жыцця і заклікаем усіх выканаць свой грамадзянскі абавязак і абараніць мір і згоду ў нашай Рэспубліцы.

**Бандарчук Т.М., дырэктар Мінскага дзяржаўнага цырка; Вагнер Г.М., кампазітар, народны артыст Беларусі, прафесар; Гасцюхін У.В., акцёр, народны артыст Беларусі; Грамыка В.А., народны мастак Беларусі, прафесар; Дрынеўскі М.П., мастацкі кіраўнік Дзяржаўнага акадэмічнага народнага хору імя Г.Цітовіча, Старшыня Саюза музычных дзеячаў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар; Душкевіч І.А., народная артыстка Беларусі; Елізар'еў В.М., дырэктар-мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра балета Рэспублікі Беларусь, народны артыст СССР, прафесар; Яроменка М.М., Прэзідэнт Канфедэрацыі творчых саюзаў і культурных фондаў Беларусі, народны артыст СССР; Ярмоленка А.І., мастацкі кіраўнік ансамбля "Сябры", народны артыст Беларусі; Казінец М.А., рэктар Беларускай акадэміі музыкі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, народны артыст Беларусі, прафесар; Картэс С.А., дырэктар-мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага тэатра оперы Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі; Марчук Г.В., пісьменнік, дырэктар выдавецтва "Мастацкая літаратура"; Алейнік Г.М., дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі; Паплаўскі Г.Г., акадэмік Акадэміі навук Рэспублікі Беларусь, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі; Савіцкі М.А., акадэмік Акадэміі навук Беларусі, народны мастак СССР; Саўчанка А.М., народны артыст СССР; Смольскі Р.Б., доктар мастацтвазнаўства; Траян Ю.А, балетмайстар, народны артыст Беларусі.**

# НА ЭКРАНЕ — ФРАНЦЫЯ

У сапраўдных кінагурманаў, якія аддаюць перавагу не аднастайным трылерам і баевікам, а аўтарскаму кіно, якое часам называюць яшчэ элітарным, вялікім поспехам карыстаюцца рэтраспектывы класічных стужак, што ладзіць у Палацы культуры прафсаюзаў Беларуская федэрацыя "Кінаклуб". Заўсёды перапоўненая зала сведчыць, што пабываць на гэтых праглядах не толькі цікава, але і прэстыжна — прынамсі, так лічаць у студэнцкіх колах.

Цяперашнюю рэтраспектыву, што праходзіць 14—28 кастрычніка, дапамагло наладзіць пасольства Францыі. Яна складаецца са стужак, якія падаюць шырокую палітру жыцця Францыі і перадусім Парыжа ў 20-80-я гады. На мінулым тыдні адбыўся паказ фільмаў, зняткх класікамі еўрапейскага кіно Рэнэ Клерам ("Парыж уначы"), Андрэ Тэшыне ("Гатэль "Амерыка"), Жанам Рэнуарам ("Злачынства мёсьё Ланжа"), Жакам Бекерам ("Антуан І Антуанетта"), Жан-Пьерам Мельвілем ("Боб-пражыгацель") ды інш. На гэтым тыдні можна паглядзець наступныя стужкі:

**23.X** — "Вайна гузікаў" (1962 г., рэж. Іў Рабер)
**24.X** —"Мы не будзем чакаць старасці разам" (1972 г., рэж. Марыс П'яла)
**27.X** —"Ночы поўні"(1984 г., рэж. Эрык Рамер)
**28.X** — "Месяц на небе бывае і ўдзень" (1990 г., рэж. Клод Лелюш).

Усе кінасеансы адбываюцца з сінхронным перакладам і пачынаюцца а 21-й гадзіне ў Палацы культуры прафсаюзаў.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

### ТЭАТРУ "БУЛЬВАР СМЕХУ" — ТРЫ ГАДЫ

У сераду, 16 кастрычніка мінскі тэатр "Бульвар смеху" адкрыў трэці тэатральны сезон. У гэты дзень было шмат віншаванняў ад даўніх сяброў тэатра. Выказаць сваю павагу і захапленне прыйшлі гурт "Плата", Г.Волчык, саліст Дзяржаўнага канцэртнага аркестра Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам М.Фінберга В.Касенка. Сваімі заводнымі мелодыямі публіку парадавалі У.Станкевіч і яго "Элегант кампані", вясёлы і гарэзлівы Джымі Нэльсан. Але гледачы чамусьці апладзіравалі слаба. Ці то дым са сцэны на іх так падзейнічаў, ці то яны проста не маглі дачакацца канца канцэрта, каб паспытаць цудоўнае піва беларускага разліву ад завода "Крыніца". Аднак напрыканцы гэтай вечарыны гледачы (асабліва моладзь) ажывіліся, бо на сцэну выйшлі іх куміры — гурты "Палац" і "Ляпіс Трубяцкі". Увогуле можна сказаць, што свята ўдалося на славу. Увесь час у зале стаяла святочная, нейкая асаблівая атмасфера. Спадзяёмся, што такіх вечароў, як гэты, у тэатра "Бульвар смеху" будзе яшчэ вельмі шмат.

**Валерыя БАХУР**

### ЗАПРАШАЕМ

30 кастрычніка ў Канцэртнай зале "Мінск" цыганскі цэнтр "Рамалэ" прадстаўляе шоу-праграму з удзелам Валянціны і Дуфуні Вішнеўскіх і іх цыганскага табара. Пачатак а 19-й гадзіне. Арганізатар канцэрта — прадзюсерскі цэнтр газеты "Аўтабізнес". Даведкі па тэлефонах: 266-06-74, 266-26-81.

**Валерыя БАХУР**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выказвае спачуванне дырэктару-мастацкаму кіраўніку Мінскага дзяржаўнага цырка Бандарчук Таццяне Мікалаеўне ў сувязі з напаткаўшым яе горам — смерцю бацькі.**

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку выказвае глыбокае спачуванне родным і блізкім з выпадку смерці пісьменніка Аляксандра Пятровіча Капусціна.**

СІТУАЦЫЯ

# АДКРЫТЫ ЛІСТ

**Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнку**

**Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.Г.Шарэцкаму**

**Старшыні Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь М.М.Чыгіру**

Больш за 70 гадоў таму — усяго праз чатыры гады пасля заканчэння Грамадзянскай вайны, — у найцяжэйшы перыяд аднаўлення народнай гаспадаркі, было прынята рашэнне аб стварэнні на Беларусі ўласнай кінавытворчасці. Яно ўвайшло ў лік тых рашэнняў, якія дыктаваліся жаданнем бачыць рэспубліку краінай высокай культуры.

Падчас Вялікай Айчыннай вайны, калі кінавытворчасць была цалкам знішчана і, здавалася, не існавала ніякіх перадумоваў для яе адраджэння, яна ажыла, літаральна адрадзілася з попелу.

Так было. Гэта праўда гісторыі нашай кінакультуры, якую немагчыма абвергнуць.

У апошнія гады мы не проста канстатуем часовыя цяжкасці ў развіцці кіно, а з'яўляемся сведкамі памірання беларускага кінематографа. Таго "Беларусьфільма", які ведалі кінагледачы многіх краін і які з добрай



усмешкай называлі не інакш, як "Партызанфільм" — за ягоную вернасць ваеннай тэме, — сёння ўжо не існуе.

З кожным годам скарачаецца вытворчасць ігравых, дакументальных, анімацыйных фільмаў. Застаюцца незапатрабаванымі таленавітыя майстры, чыя праца ўвасоблена ў многіх значных творах і якія далёка не вычарпалі свой мастакоўскі патэнцыял.




Не можа рэалізавацца і маладое пакаленне кінематаграфістаў, бо з прычыны маламагутнасці кінавытворчасці працу атрымліваюць толькі адзінкі.

Пра ўсё гэта вядома ў афіцыйных колах. Прынамсі пра крызісны стан беларускай культуры цалкам і кінематографа, у прыватнасці, ішла гаворка на красавіцкай нарадзе, скліканай Камісіяй па адукацыі, навуцы і культуры Вярхоўнага Савета Рэспублікі.

Чаму ж мы зноў стукаемся ў дзверы дзяржаўных кабінетаў?

Перадусім таму, што ў сферы кінематографа не назіраецца таго, што можна назваць доўгатэрміновай дзяржаўнай палітыкай. Урадавыя органы, пад апякунствам якіх знаходзіцца кінематограф, занятыя, хутчэй, прыняццем злабадзённых мер, чым распрацоўкай стратэгічных мерапрыемстваў. А калі не заняцца стратэгіяй сёння, дык заўтра гэта страціць сэнс, бо праблемы і аб'ект, што іх спараджае, проста перастануць існаваць.

Беларускі Саюз кінематаграфістаў не аднойчы выступаў з ініцыятывамі, скіраванымі на рэарганізацыю кінасправы ў Рэспубліцы. На жаль, прымалася толькі тое нямногае, што задавальняла кіраўнікоў урадавых ведамстваў. Кардынальныя ж прапановы — стварэнне Кінаканцэрна "Беларусьфільм" ("Белдзяржкіно") альбо Кінавідэакампаніі, прыняцце Закону аб кіно, уваходжанне Рэспублікі Беларусь у кінасістэму Еўропы праз спецыялізаваныя арганізацыі — праігнараваныя, хаця відавочных праціўнікаў нібыта і не было.

Замест звароту да праблемаў стратэгічнага характару робяцца некаторыя арганізацыйныя новаўвядзенні, што выклікаюць у кінематаграфістаў разгубленасць. Да прыкладу, разгляд усяго сцэнарнага партфеля "Беларусьфільма" чамусьці пераносіцца ў Экспертны Савет Міністэрства культуры, а вызначэнне складу Савета не ўлічвае меркаванне кінематаграфічнай грамадскасці, што, мякка кажучы, не спрые ўзаемаразуменню паміж кінематаграфістамі і кіраўніцтвам Міністэрства.

Час ад часу робяцца спробы ліквідацыі студыі "Летапіс", якая ўваходзіць у структуру "Беларусьфільма" — падраздзялення, адной з асноўных задач якога з'яўляецца стварэнне кіналетапісу сучаснасці. Ці трэба даводзіць, наколькі важная гэтая задача для будучыні, для гісторыі?

Лічым неабходным засяродзіць увагу на адным вельмі паказальным эпізодзе кінематаграфічнага жыцця, які аб'ектыўна дэманструе непаважнае стаўленне да нашых кінематаграфістаў. Інакш як аплявуху сабе не могуць успрыняць беларускія кінематаграфісты вестку аб фінансаванні з рэспубліканскіх сродкаў мастацкага фільма Я.Мацвеева "Кахаць па-руску-2". Нічога не маючы супраць творчага супрацоўніцтва з дзеячамі расійскага кіно, у тым ліку і з Я.Мацвеевым, мы ўспрынялі такую падзею — на фоне разбурэння нацыянальнага кінематографа і беспрацоўя ў асяродку кінаработнікаў — як дзіўную. Аднак, магчыма, нічога дзіўнага няма, і ў наяўнасці яшчэ адзін доказ грэбавання ўласным кіно?

У кінематаграфістаў, як і ў большасці работнікаў сферы культуры, гранічна нізкі ўзровень сацыяльнай абароны. Аказваецца, адным росчыркам пёрка і яго можна знішчыць.

Раптоўны загад кіраўніцтва кінастудыі аб пераводзе мастацка-вытворчага персаналу на кантрактную сістэму на справе азначаў не што іншае, як масавае звальненне. Вострая грамадская рэакцыя і незаконнасць гэтай акцыі прымусілі выдаць новы загад, які адмяняе першы.

"Сюжэт" гэты не новы. Вырашаць праблемы кінавытворчасці за кошт творчага саставу ўжо стала нормай. Бязглуздзіца, але ў творчай арганізацыі творчы чалавек — ізгой! Калі для кінематаграфістаў старэйшага пакалення падобная "творчая атмасфера" не такя ўжо і навіна, дык як магчыма існаваць у такім клімаце маладым?

Усё гэта сведчыць пра тое, што на кінастудыі захоўваецца кіруючы механізм мінулых часоў, адсутнічаюць арганізацыйныя рычагі для самаразвіцця.

Галоўная мэта нашага Адкрытага ліста не ў тым, каб у чарговы раз "паскардзіцца на лёс" і кінакіраўніцтва. І не ў тым, каб прасіць для кіно новыя субсідыі з худога дзяржаўнага бюджэту. Дзяржава дапамагае кінематографу, хаця не можам не прывесці наступныя лічбы: у 1995 годзе на рэспубліканскі кінематограф было выдаткавана з бюджэту каля 12 мільярдаў рублёў, а падаткі склалі каля 18 мільярдаў.

Гаворка ідзе пра неабходнасць распрацоўкі асноўных прынцыпаў дзяржаўнай палітыкі ў галіне кінематаграфіі, пра вызначэнне прыярытэтаў хаця б на бліжэйшую перспектыву.

Неабходны Закон аб кіно, у якім вызначаліся б асновы ўзаемастасункаў кінагаліны (кінавідэавытворчасці, кінавідэапракату) з дзяржаўнымі інстанцыямі.

Лічым заканамернай прапанову аб наданні кінастудыі "Беларусьфільм" статуса нацыянальнай студыі, як гэта зроблена на Украіне, і ўсталяваць пры гэтым стымулюючы падатковы рэжым.

Трэба было б фарсіраваць, на наш погляд, збліжэнне кінавідэавытворчасці і тэлевытворчасці — міжнародная практыка сведчыць: значная частка кінавідэапрадукцыі ствараецца для тэлевізійнай аўдыторыі.

Вельмі важны для развіцця нацыянальнага кінематографа "маладзёжны фактар". Таму неабходным з'яўляецца комплекс мер, якія маглі б далучыць да "арбіты" найбольшую колькасць таленавітых кінамастакоў, выпускнікоў Беларускай акадэміі мастацтваў і Расійскага інстытута кінематаграфіі. Гаворка ідзе пра стварэнне маладзёжнай студыі.

Дасюль не вырашана праблема вяртання з Расійскага Дзяржфільмафонду мастацкіх і анімацыйных фільмаў, створаных беларускімі кінематаграфістамі ў 20 — 30-я гады. Неабходна стварэнне нацыянальнай фільматэкі.

У кінавідэастудый Беларускага Саюза кінематаграфістаў маюцца праекты, якія могуць (і, на нашую думку, павінны) атрымаць усебаковую дзяржаўную падтрымку. У прыватнасці, праект стварэння міждзяржаўнага спадарожнікавага канала "Альфа-ТВ" і арганізацыя Фонду 100-годдзя кіно, мэта якога — распаўсюджанне кінакультуры высокага мастацкага ўзроўню.

Нарэшце, уваходжанне Рэспублікі Беларусь у еўрапейскую арганізацыю "ЭВРИМАЖ" дае магчымасць кааперавання беларускай кінавытворчасці з еўрапейскай, што, з аднаго боку, дапаможа вырашыць праблему занятасці кінатворцаў, а з другога — будзе спрыяць больш энергічнаму ўваходжанню беларускага кіно ў еўрапейскую культурную прастору.

Гэты ліст мы разглядаем як чарговы заклік да вас, кіраўнікі дзяржавы, пакуль яшчэ не позна, паставіць заслоны на шляху канчатковага разбурэння нацыянальнага кіно.

Не страчваем надзеі на тое, што будзем пачутыя і што будуць прынятыя радыкальныя рашэнні па выратаванні кінематографа рэспублікі.

**Члены Беларускага Саюза кінематаграфістаў:**
**У.Гасцюхін, народны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўных прэмій Беларусі і Расіі; У.Дашук, народны артыст Рэспублікі Беларусь, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР; І.Дабралюбаў, народны артыст Рэспублікі Беларусь; У.Дзяменцьеў, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР; В.Нікіфараў, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР; М.Жданоўскі, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі; Б.Аліфер, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі; Т.Логінава, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР; А.Корчыкаў, заслужаны артыст Расійскай Федэрацыі; В.Рыбараў, лаўрэат прэміі імя Ю.Тарыча.**
**І.Аўдзееў, А.Бабкова, Ю.Бароўскі, І.Воўчак, В.Васінеўскі, А.Верашчагін, Ю.Гарулёў, Г.Глухоўскі, А.Зубрыцкі, А.Красінскі, Я.Крупеня, І.Кавелашвілі, С.Кулажанка, Э.Мілава, У.Арлоў, І.Пісьменная, У.Панамароў, А.Смірноў, С.Цярэшчанка, Н.Фральцова, У.Халіп, Х.Хасанава, Ж.Чацверыкова, Р.Ясінскі, С.Лук'янчыкаў.**



САБОРНАЯ ПЛОШЧА

# БУДАВАЦЬ ДУХОЎНУЮ ЦЫВІЛІЗАЦЫЮ

**— Не маглі б Вы распавесці пра рэлігійныя выданні ў Польшчы, пра Ваш часопіс і асноўныя праекты, якія тычацца рэлігійнай дзейнасці?**

— Першае каталіцкае выданне "Тыгоднік Повшэхны" было закладзена ў Польшчы ў 1944 годзе, як толькі сышлі немцы. Гэта быў штотыднёвік, які меў хутчэй культурную арыентацыю і дэманстраваў рэлігійны погляд на справы культуры і сацыяльныя працэсы.

Праз пэўны час пачаў выходзіць штомесячнік "Знак". Распачынаўся ён у тым жа асяроддзі, але меў ужо хутчэй філасофскі характар... Абодва гэтыя выданні выходзілі да смерці Сталіна ў 1953 годзе. З пэўнымі цяжкасцямі, але выходзілі. Пасля смерці Сталіна каля трох гадоў яны былі закрыты з-за таго, што не змясцілі панегірык нябожчыку, абмежаваўшыся толькі афіцыйным некралогам.




У 1956 годзе, калі наступілі паляпшэнні ў палітычнай сітуацыі, "адліга", зноў пачалі выдавацца часопісы. Менавіта тады былі закладзены клубы каталіцкай інтэлігенцыі, адразу ў Варшаве, а пасля яшчэ ў чатырох гарадах Польшчы. Акурат у гэты момант адбываліся выбары ў Польскі Сойм, і клубы інтэлігенцыі маглі вылучыць сваіх прадстаўнікоў. Яны склалі групу, якая мела назву таксама "Знак".

Адначасова ў Варшаве пачаў выходзіць часопіс "Вензь", рэдактарам якога быў Тадэвуш Мазавецкі. А пазней адкрылася магчымасць закласці выдавецтва, яно спецыялізавалася на кнігах рэлігійна-культурна-філасофскага характару. Калектыў выдавецтва ставіў мэтай не толькі паглыбляць рэлігійныя веды, але і праводзіць адпаведную палітыку. З камуністамі цяжка было весці дыялог, і таму выдавецтва хутка закрылася. Матэрыялы ж нашага часопіса былі прызначаны для людзей з рознымі перакананнямі, часам з'яўляліся матэрыялы атэістаў, часцей пад псеўданімамі.

Доўгі час тэмай выданняў былі дакументы і вынікі Другога Ватыканскага Сабору. Многа пісалася не толькі пра тое, як праходзіў сабор, але друкаваліся і дакументы Сабору, і матэрыялы, прысвечаныя праблемам мадэрнізацыі касцёла. Якраз у гэты час Арцыбіскупам Кракаўскім стаў Караль Вайтыла, які прыклаў вельмі многа высілкаў, каб ідэі Ватыканскага сабору рэалізоўваліся ў жыцці. Арыентацыя на рашэнні Другога Ватыканскага Сабору падтрымліваецца ў часопісе і зараз. У нас развіваецца дыялог па праблемах абнаўлення касцёла. Вельмі важна, каб атрымаўся экуменічны дыялог.

Штомесячнік "Знак" часта друкуе матэрыялы, прысвечаныя іншым канфесіям. Напрыклад, быў спецыяльны нумар, прысвечаны праваслаўю, і спецыяльны нумар, прысвечаны пратэстантызму. Акрамя таго, адлюстроўваюцца працэсы, якія адбываюцца ў культуры і сацыяльным жыцці. Прыкладаюцца высілкі для міжнародных кантактаў і супрацоўніцтва... Натуральна, што супрацоўніцтва шукаецца на ўсходзе. Ёсць філіял нашага фонду, які існуе пры часопісе, у Кіеве. Пошук формаў супрацоўніцтва працягваецца. Ёсць шэраг прыкладаў такіх ініцыятыў... Напрыклад, французскае выдавецтва пачало друкаваць шэраг кніг па рэлігійнай тэматыцы. Асобныя з кніжак выдаюцца па-польску. Зборы з іх продажу зноў ідуць на выданне кніг. У Кіеве ёсць перыядычныя зборнікі на польскай і ўкраінскай мовах. Менавіта ў гэтым накірунку ідзе распрацоўка нашых ініцыятыў.

**— Якія перспектывы дзейнасці Вашага фонду на Беларусі?**

— Пакуль адбываецца збор інфармацыі. "Знак" спецыялізуецца на тэматычных нумарах, і магчыма, падрыхтуем спецыяльны беларускі нумар. Мы таксама выдаем штомесячны дадатак па праблемах краін Усходняй Еўропы. Зараз шукаюцца кантакты з аўтарамі, якія б маглі даваць матэрыял для часопіса.

Існуе праект стварэння міжнароднага выдання пад эгідай ЮНЕСКО, прысвечанага рэлігійнай тэматыцы, з падключэннем у сістэму INTERNET. На жаль, адкрыццё свайго адрасу ў гэтай сістэме каштуе даволі многа, і самі мы не маем на гэта сродкаў. Зараз мы выдаем кнігу, якая прысвечана пытанням нацыянальных меншасцяў і сродкаў масавай інфармацыі. Яна была створана па матэрыялах форуму журналістаў Еўропы, які адбываўся ў Асвенцыме. У бліжэйшы час яна выйдзе на польскай мове, пасля на ангельскай.


Нядаўна нашу краіну наведаў галоўны рэдактар польскага культуралагічнага часопіса "ЗНАК" прафесар Стэфан Вількановіч. Падчас сустрэчы ў амбасадзе Рэспублікі Польшча наш карэспандэнт занатаваў яго меркаванні па пытаннях экуменізму ў сучасным грамадстве.

У Кіеве мы пачалі друкаваць інфармацыйны бюлетэнь па пытаннях рэлігійнага жыцця на Украіне, усіх канфесій. Мы спадзяемся, што калі ён утрымаецца на рынку, мы займеем сваіх карэспандэнтаў і ў Расіі, і на Украіне, і на Беларусі, каб адлюстроўваць рэлігійнае жыццё ва ўсіх гэтых рэгіёнах.

**— У матэрыялах часопіса вялікую ўвагу надавалі матэрыялам Другога Ватыканскага Сабору. Ці можна прагназаваць адпаведныя змены ў праваслаўнай царкве?**

— Мой выкладчык з каталіцкага універсітэта быў аўдытарам гэтага Сабору (удзельнічаў як свецкая асоба). Ён лічыць, што, каб рэалізаваць тое, да чаго прыйшоў Сабор, трэба сто гадоў як мінімум. У любым выпадку гэта вельмі працяглы працэс. Гэта не пытанне пэўнага ўказа, які можа змяніць мову богаслужэння, а ўнутраныя змены ў людзях. Фактычна гэта новае вяртанне хрысціян у хрысціянства. Я ў дадзены момант бачу, што ў некаторых сферах гэтыя рэформы, дух сабору сапраўды ўвайшоў у людзей. Але яшчэ вельмі многа фармалізму, прывязанасці да неістотных традыцый. Гэта вельмі працяглы працэс, якому разам з тым пагражае небяспека. Напрыклад, з боку рэзка нацыяналізаваных форм рэлігійнасці, я лічу, што, мяркуючы па тым, як гэтыя працэсы адбываюцца ў іншых цэрквах, — паўсюль патрэбна пэўная рэвалюцыя. Яна можа адбывацца па-рознаму, таму што ёсць розныя зыходныя пазіцыі. Аднак ёсць агульная мэта, якую б я выклаў у трох фармуліроўках: царква, тая ці іншая, у сваім развіцці павінна быць больш хрысціянскай, больш каталіцкай і больш царкоўнай. Калі я кажу больш хрысціянскай — значыць больш звязанай з Хрыстом. Больш каталіцкая — маецца на ўвазе не канфесія, а большая адказнасць. Больш царкоўная — арыентацыя на садружнасць, супольнасць.

Тут варта пераходзіць ад канторы, пэўнага інстытута, да сям'і. Структуры, арганізацыі, яны канешне заўсёды патрэбныя, але аснова справы — супольнасць. Менавіта ў гэтым накірунку павінны трансфармавацца ўсе цэрквы, і менавіта ў гэтым я бачу экуменізм.

**— Большая частка дакументаў Ватыканскага Сабору не вядома на тэрыторыі былога СССР. Калі праходзіў сам Сабор, тут адчуваўся вялізны атэістычны прэсінг. Мы былі адрэзаны ад працэсаў у Еўропе, і зараз вельмі цяжка кампенсаваць гэтае адставанне. Фактычна газета "Авэ Марыя" — адзінае выданне, якое асвятляе сацыяльнае жыццё касцёла. Праваслаўе таксама не мае дастаткова моцных і масавых выданняў. Праваслаўная думка ў таталітарнай дзяржаве развівалася з вялікімі цяжкасцямі, і каталіцызм не мог на яе ўплываць. Таму на Беларусі вельмі актуальна выданне кшталту "Новай Еўропы", прысвечанае, пытанням рэлігійнасці і духоўнасці.**

— Я лічу, што неабходна зрабіць невялікія брашуры, якія б маглі выкарыстоўваць прадстаўнікі ўсіх хрысціянскіх канфесій — каталікі, праваслаўныя, пратэстанты... для ўсіх, хто не арыентуецца ў пытаннях рэлігіі. Гэта абсалютна канкрэтная ідэя. Мяркуемая назва "Ісус пра веру, любоў, каханне...", якая б складалася з некалькіх цытат з евангелля, са святых апосталаў, айцоў царквы, напрыканцы — рэзюме, што гэта значыць у паўсядзённым жыцці.

**— Наколькі перашкаджаюць тэалагічныя разыходжанні, напрыклад, паміж каталіцкай і праваслаўнай канфесіямі супрацоўніцтву ў гэтым накірунку?**

— Калі гаворка ідзе пра рознасць у асновах тэалогіі католікаў і праваслаўных, то яна практычна адсутнічае. Ёсць адна прынцыповая розніца — адносіны да царквы і да свету. Тут існуюць духоўныя разыходжанні, яны больш цывілізацыйныя. Я не бачу перашкод да таго, каб мы маглі больш выкарыстоўваць усходнюю духоўнасць. Лічу, што няма тэалагічных перашкод, каб царква актыўна ўплывала на культуру і выхаванне. Рана ці позна мы да гэтага дойдзем. Тут можа быць узаемаабмен ці збліжэнне.

Я не лічу важнай дыскусію высокіх тэалагічных камісій. Яны, канешне, павінны адбывацца, яны дапамагаюць на будучае, але значна важнейшае ўзаемаазнаямленне і ўзаемасупрацоўніцтва ў агульных справах. Трэба быць рэалістамі — канфлікты бываюць вельмі значныя. Я нядаўна быў у прыходзе на Украіне, дзе праваслаўныя і грэкакатолікі проста біліся за царкву, прычым біліся крыжамі. Гэта паказчык таго, да чаго можа прывесці дэфармацыя. Існуе часта такі парадокс — што людзі не ведаюць розніцы паміж рэлігіямі, але б'юцца паміж сабой. Гэта не тэалагічнае, а экзістэнцыяльнае пытанне.

Прыклад пратэстантаў, католікаў і праваслаўных, якія ў стане зрабіць нешта разам, з'яўляецца значна больш важным, чым тэалагічныя дыскусіі. У мяне зараз ёсць праект, які ў дадзены момант рэалізуецца і ў сваёй аснове з'яўляецца экуменічным. Менавіта: у штомесячніку "Знак" мы друкавалі анкету "Па слядах Хрыста ў сучасны свет". Гэта запрашэнне да людзей, каб яны пісалі, як, на іх думку, варта ісці па слядах Хрыста, як варта наследаваць Хрысту сёння. Мы прасілі іх распавесці пра канкрэтных людзей, якія ведаюць, як гэта трэба рабіць. Кожны месяц мы друкавалі адказы з розных краін і прадстаўнікоў розных канфесій. Напрыклад, праваслаўны святар у Польшчы напісаў, што прыкладам спадкаемнасці Хрысту з'яўляецца айцец Фларэнскі. Іншыя пішуць пра іншых людзей. Мы надрукавалі таксама выказванне маладога француза, які працуе ў Камбоджы і займаецца з дзецьмі-сіротамі ў найбольш цяжкіх умовах. Ён прыходзіць да парадаксальнай высновы: гэтыя дзеці настолькі разбураны вайной, настолькі вырваныя з усялякай культуры і з усякай маралі, што ён лічыць сваім хрысціянскім абавязкам у першую чаргу ўвесці іх у культуру сваёй краіны, і толькі тады яны будуць у стане зразумець, куды імкнуцца далей. Вось такі парадокс.

Я б вельмі хацеў, каб шмат людзей на Беларусі: католікаў, праваслаўных, пратэстантаў, з тых, хто шукае, паспрабаваў бы адказаць на такога роду анкету. А пасля, калі збяруцца такія выказванні з розных краін, канфесій, тады мы будзем мець магчымасць паказаць, як трэба жыць па-хрысціянску ў сучасным свеце.

**— Ці ёсць якія-небудзь канкрэтныя прыклады такога супрацоўніцтва?**

— Існуе такі манашаскі ордэн Дзевы Марыі. Яны адышлі ад Ісуса і робяць акцэнт на Дзеву Марыю. Да яго на працягу стагоддзяў належалі пераважна палякі, літоўцы і беларусы. Гэты ордэн пасля першай сусветнай вайны меў сваю місію ў Харбіне, Маньчжурыі.

Там былі беларускія марыяне ўсходняга абраду. І адбылося так, што там пасля вайны было многа рускіх эмігрантаў, натуральна, праваслаўных. Яны мелі магчымасць стварыць школу. Гэта была адзіная хрысціянская школа ў горадзе. Тут усе прадметы выкладалі католікі, кіравалі католікі, але дзеці ў большасці былі праваслаўныя. Вось вам праблема: як рэлігійна выхоўваць праваслаўных дзяцей? Бацькі вельмі хваляваліся, што католікі будуць займацца празелітызмам і вырываць дзяцей з праваслаўных каранёў.

Ксяндзы-беларусы зрабілі зусім іначай: калі ў школе праходзіла катэхізацыя, яны адразу выкладалі ўсё тое, што з'яўлялася агульным для католікаў і праваслаўных, і казалі: мы верым гэтаму сумесна, а мы, католікі, яшчэ верым у тое і тое. У школе праводзіліся месы, у якіх дзеці бралі ўдзел, але споведзі і іншыя таінствы праводзіліся праваслаўнымі святарамі, які прыходзілі ў школу. Для дзяцей наладжваліся і духоўныя заняткі. На практыцы гэта выглядала так: на працягу некалькіх дзён у школе не было заняткаў, а толькі адбываліся духоўныя сходы для дзяцей і малітвы. Сярод выпускнікоў школы першага года толькі адзін прыняў каталіцтва. Прычым ксяндзы яго шмат разоў папярэджвалі, прапаноўвалі пачакаць, адгаворвалі...

Галоўны вынік — адбылося збліжэнне католікаў і праваслаўных, збліжэнне паміж каталіцкім епіскапам і праваслаўнымі святарамі.

**— Наколькі небяспечны для хрысціянства пераход вернікаў у іншыя рэлігіі, напрыклад, усходнія?**

— Гэта пэўны шлях у пошуках іншай рэлігіі, бо хрысціянства падалося ім малахрысціянскім, занадта свецкім. Яны шукаюць нешта больш абавязковае, сакральнае ў другіх рэлігіях. Але ўсё вельмі складана, таму што паралельна існуюць розныя рухі.

**— У чым спецыфіка беларускай рэлігійнай сітуацыі?**

— Што тычыцца беларускай сітуацыі, то тут, па-першае, адразу заўважаецца талерантнасць, падругое — прапорцыі ў колькасці вернікаў асноўных канфесій параўнальныя.

Тут няма ярка выражанай большасці ці меншасці. Справа ў тым, што калі большасць ці меншасць робіцца ярка выражанай, то меншасці вельмі цяжка не знікнуць, яна баіцца за сваё існаванне. Калі колькасці параўнальныя — гэта вельмі добрая сфера для дыялога: ні мы не дамінуем, ні вы не дамінуеце. Мы можам размаўляць на роўных. Псіхалагічна на Беларусі найлепшая сітуацыя для дыялога.

**Падрыхтаваў Алесь ТУРОВІЧ**


Гарадскі пасёлак Лагішын Пінскага раёна налічвае тры тысячы жыхароў. Спрадвеку тут жылі, сябравалі, радніліся прадстаўнікі дзвюх галоўных рэлігійных канфесій на Беларусі — праваслаўнай і каталіцкай. Адзін насупраць другога стаяць і два храмы. Знаходзяць агульную мову паміж сабой настаяцель Свята-Праабражэнскай царквы айцец Уладзімір Агіевіч і ксёндз касцёла Святых Пятра і Паўла Міраслаў (на здымку).

**Фота Эдуарда КАБЯКА, БелТА.**

САБОРНАЯ ПЛОШЧА

# "ПАВОДЛЕ ВОБРАЗА І ПАДАБЕНСТВА..."

***З Мітрапалітам Мінскім і Слуцкім, Патрыяршым Экзархам усяе Беларусі ФІЛАРЭТАМ гутарыць наш карэспандэнт Навум ЦЫПІС.***

**— Час зараз цяжкі. Тых, каму давяраюць і хто не падманвае, заўжды было мала, а сёння — менш, чым калі-небудзь. Вы, Уладыка, адзін з іх. Магчыма, тыя, хто актыўны і заможны, прачытаўшы Вашае слова, стануць больш светлымі і шчодрымі, а бяднейшыя — больш дзейнымі і аптымістычнымі.**

**Вы шмат вандруеце, наведваеце розныя краіны. Ці ўзнікала ў Вас пачуццё тугі па радзіме, па родным доме? Што такое Радзіма? Як Вы гэта разумееце?**

— Было б дзіўна, калі б чалавек, хай і на кароткі прамежак часу адарваны ад дому, не сумаваў бы без сваёй зямлі. Безумоўна, адчуваў гэта і я, і неаднойчы. Гэта, як я разумею, нармальны стан чалавека. А паняцце Радзімы для мяне даўно вызначана кароткім словазлучэннем — Радзіма-маці. Ні словам, ні справай сын альбо дачка не засмуцяць маці, не зробяць ёй балюча, не кінуць у бядзе.

Усё сэнсавае багацце паняццяў — дабрыня, любоў, вернасць, надзея — прысутнічае, калі мы прамаўляем словы Радзіма-маці. Балюча зараз чуць, як людзі, часцей за ўсё маладыя, нядобра кажуць пра радзіму, народ. Нават калі шмат што ў мінулым было не такім, якім павінна было быць, ці нагода гэта для сыноўняй няўдзячнасці? Але бацькоўская любоў усё вытрывае. Узгадайце евангельскую прыпавесць пра блуднага сына.

**— Ці можа мяняцца стаўленне да Радзімы ў залежнасці ад узроўню дабрабыту чалавека?**

— Яно, відавочна, мяняецца: нямала прыкладаў крыўдаў, прэтэнзій і няўдзячнасці. Так выхоўвалі. Духоўны чалавек — я маю на ўвазе духоўнасць не толькі як катэгорыю рэлігійную, але і культурную, маральную, — такі чалавек трывалы ў сваім стаўленні да роднай зямлі і народа.

**— У чалавеку дзіўным чынам спалучаецца высокае і нізкае, нябеснае і зямное, духоўнае і цялеснае. Чаму, робячы дабро, ён можа быць злым і наадварот? Чаму не можа быць толькі цудоўным, як пра гэта марылі утапісты ва ўсе часы?**

— Бог стварыў цудоўны Сусвет, дзе ўсё гарманічна, і разумны пачатак у ім — Чалавека. Паводле вобраза і падабенства Бога. І заклаў у яго знічку Боскую — бессмяротную душу. Чалавек створаны чыстым і беззаганным з магчымасцямі бясконцага ўдасканалення і свабодай выбару. У тым, што здарыўся грэх, вінаваты сам чалавек. У Евы і Адама быў выбар: пераступіць Божую забарону альбо не. Чалавек абраў існаванне на мяжы дабра і зла. І — узыходзіць да здзіўляючых вышынь у першым выпадку і апускаецца да подласці — у другім.

**— Чаму ж чалавек "пабег" у абодва бакі, а не толькі ў накірунку дабра? Мы ж ужо шмат у чым даходзім да жывёльнага стану...**

— Калі б толькі да жывёльнага. Жывёла абмяжоўваецца інстынктам, законам прыроды, які яна не можа пераступіць. А чалавек, як вянец стварэння, атрымаўшы ад Бога магчымасці бязмежнага ўдасканалення, бязмежна і саграшае.

**— Як жа пасунуць яго ў бок дабра?**

— Накіраваць да дабра можа толькі Бог і ягоная благадаць, калі мы будзем захоўваць ягоныя законы. Табе быў дадзены рай — ты не захацеў. Але Бог не пакінуў чалавека, даў яму дзесяць запаветаў: не забі, не пралюбадзейнічай, не ўкрадзі... І усё ж чалавек пайшоў далёка ў бок... І вось Бог дасылае Сына свайго ў свет выратаваць чалавека, і яму даюцца новыя запаветы — запаветы шчасця. Гэта ўжо не загад, бо сутнасць іх наступная: хочаш выратавацца — будзь пажаданым Богу і людзям. Інакш кажучы, Гасподзь дае нам шмат магчымасцяў выйсця з цяжкіх становішчаў: камусьці патрэбен "загад", камусьці парада, камусьці любоў — толькі заставайцеся людзьмі, любіце адзін аднаго, дапамагайце адзін аднаму. У нас жа ёсць прыклад. Бог здзейсніў самы высокі маральны акт: ён ахвяраваў Сына Свайго Першароднага Ісуса Хрыста ў імя любові свету і людзям, і Той пакутаваў за нас, каб мы мелі жыццё вечнае. Бог усіх любіць. Ёсць сродак і магчымасці наблізіцца да дабра. Ёсць царква. Мяркую, што агульнымі высілкамі — і царквы не ў апошнюю чаргу — мы паступова ператворым грамадства. Працэс гэты ўжо ідзе. Не трэба толькі думаць, што на табе скончваецца жыццё на зямлі.. Ёсць дзеці, унукі — ёсць жыццё. А над усімі — вялікае добрае неба.



**— Я так разумею, што для ўдасканалення чалавеку недастаткова толькі малітвы.**

— Малітва — гэта моўнае выказванне нашай дзейнай любові. Вядома формула: "Спяшайцеся рабіць дабро!"

**— У чым сэнс жыцця? Для чаго мы створаны на гэтай зямлі?**

— Для таго, каб усім сваім жыццём сняваць ухваленне Богу, нашаму Творцы.

**— А няверуючы навошта жыве?**

— Няверуючы? Ганарлівасць валадарыць чалавекам... Але ж паміраючы, кожны просіць: "Госпадзі, уратуй!" Няма няверуючых! Ёсць мноства людзей, і кожны з іх непаўторны ў сваёй індывідуальнасці. Колькі людзей, столькі шляхоў да Бога. У гэтым і гонар, і годнасць, і дабрыня, і любоў... Наколькі гэта прысутнічае ў вашым жыцці, настолькі вы Бога і ўхвальваеце. Калі ж мэта — дасягненне толькі матэрыяльных дабротаў, як гэта сёння разумеюць многія, дык і атрымліваецца грамадства з духоўным дэфіцытам, такое, як наша. Ці падабаецца яно нам з вамі? Мяркую, што не. Чалавек павінен быць скіраваны на стварэнне і дабрадзейныя справы. Не забывайцеся, што Бог стварыў нас паводле свайго вобраза і падабенства...

**— Як Вы разумееце словы: "багаты чалавек"?**

— Маёмасць, набытая сумленнай працай, талентам, які даў нам Гасподзь — што ж тут кепскага? Калі чалавек не закопвае яго ў зямлю, а аддае на карысць і для сям'і, і для дзяцей, і для грамадства, на добрыя справы — добра. Да прыкладу, царква сёння сутыкаецца з вялікімі эканамічнымі цяжкасцямі. І вось прыходзяць дабрадзеі, іх нямала, і кажуць: я хачу пабудаваць царкву, я хачу ахвяраваць царкве грошы... Ахвяруе. Уратуй іх Гасподзь! Чым больш заможных людзей, тым багацейшая і мацнейшая краіна. На жаль, ёсць і іншыя прыклады таго, як здабываецца багацце і як яно выкарыстоўваецца... Хутка выраслі, нібыта грыбы пасля цёплага веснавога дажджу, і — стаяць з непакрытымі дахамі, з пустымі аканіцамі недабудаваныя дамы. Сімвалічна стаяць... Значыць, не той якасці багацце.

**— Калі чалавек ахвяраваў царкве грошы альбо пабудаваў храм, ці застаецца ягонае імя дзе-небудзь? Ці ведаюць пра яго вернікі?**

— Так, у царкве існуюць "сінодзікі" — запісы імёнаў аб здароўі і спачыне. Ахвярадаўцы пакідаюць тут свае імёны і імёны сваіх сваякоў.

**— Спачуванне, суперажыванне — гэтыя пачуцці прыроджаныя або набытыя?**

— І прыроджаныя, і развітыя. Чалавек — вобраз і падабенства Бога. Вобраз дадзены, а падабенства — гэта працэс. Знічку Боскую ты павінен развіваць і станавіцца падобным да Бога. Спачуванне, суперажыванне і шматлікія іншыя рысы чалавекалюбства і ёсць прыкметы Боскай Любові.

**— Быць падобным да Бога... Цяжкая справа, асабліва зараз.**

— Жыццё — гэта заўжды нялёгкая рэальнасць, калі жыць па-боску. Але так цуоўна пачувацца Чалавекам — вянцом Божага стварэння. Гэта — узнагарода.

**— Дзякуй, Уладыка, за гутарку.**

# НОВАЯ МЯЧЭЦЬ: ДЗВЕРЫ АДЧЫНЕНЫЯ...



Яшчэ на адну святыню пабагацела наша зямля. 18 кастрычніка, у пятніцу — а гэта святы дзень для вернікаў-мусульман, у гарадскім пасёлку Смілавічы ўрачыста была адкрыта новая мячэць. Першая на Беларусі бажніца такога кшталту, пабудаваная ад падмурка і да паўмесяца на мінарэце за больш чым 60-гадовы перапынак.

Вядома, мячэць у Смілавічах не мае таго бляску, велічы, аздобы, якія ў мностве дзейнічаюць у ісламскіх краінах. Яна яшчэ не набыла канчатковага завершанага выгляду і "шліфоўкі", яшчэ належыць добраўпарадкаваць тэрыторыю, зрабіць агароджу, падвесці электрычнасць, ваду і ацяпленне, штосьці пафарбаваць і атынкаваць, абсталяваць клас для вучобы дзяцей і пакой для здарожаных гасцей.

Шмат яшчэ трэба зрабіць. Але працытуем колькі радкоў з аднаго ліста. Гэтыя ці трохі іншыя словы сказаў бы ягоны аўтар, муфтэй Ізмаіл Мустафавіч Александровіч, каб быў падчас адкрыцця мячэці, не так ужо і важна. Думаецца, сутнасць іх не надта памянялася б, бо па вялікім рахунку яна збіраецца і канцэнтруецца ў адной пласкіні, а выражаецца адным эмацыянальным воклічам: НАРЭШЦЕ ЗДЗЕЙСНІЛАСЯ — І ДЗЯКАВАЦЬ БОГУ! Але спадар Александровічі быў у дарозе на канферэнцыю ў горад Стамбул, і ягоны ліст да братоў і сясцёр па веры зачытаў Ібрагім Канапацкі, віцэ-прэзідэнт Беларускага культурна-асветнага аб'яднання татар-мусульман "Аль-Кітаб".

"Адна толькі думка пра магчымасць адкрыцця мячэці на зямлі Беларусі перапаўняе кожнага сапраўднага мусульманіна высокімі і ўдзячнымі пачуццямі вялікаму Аллагу, які дазволіў увасобіць гэтую мару ў рэальнасць. Як ні цяжка было паверыць у такое на пачатку нашага шляху па адраджэнні нацыі і рэлігіі, мы цяпер увачавідкі можам пабачыць плады нашых намаганняў і памкненняў. Гэтая мячэць — сведка таго, што мы яшчэ жывыя, што ў нас захаваліся перададзеныя нашымі продкамі традыцыі, культура, гісторыя, наша рэлігія іслам. Для нас важна, каб з'яўленне гэтай мячэці стала стымулам для іншых мусульманскіх абшчын. Спачатку задумацца, а потым па меры магчымасцяў ажыццявіць сваю задуму і стварыць месца для малітоўнага акта. Хай сціплае, невялікае, але чыстае будзе тое месца, бо мы перакананыя, што малітва кожнага з нас успрымаецца вялікім Аллагам незалежна ад таго, у якім — шыкоўным ці сціплым — атачэнні яна творыцца і выконваецца, а ад таго, наколькі чыстасардэчна, наколькі аддана і пераканальна чалавек прадстае перад Аллагам у малітве".

... І вось нясецца з балкона сціплага мінарэта гучны голас муэдзіна з заклікам-запрашэннем у Дом Аллага на набажэнства. Перш чым туды ступіць, мужчыны недалёка ад увахода спалоскваюць ногі чыстай вадою, пакідаюць у прыходні абутак — у свой храм мусульманін павінен заходзіць чысты.

На двары стаяць жанчыны, сціпшаныя, з прасветлымі тварамі. У мячэці, леваруч, ёсць невялікі малітоўны пакой і для іх. Але я не ведаю, чаму ніводнай з іх там не было. Можа, таму, што мусульманкі-смілавічанкі з правам сапраўдных гаспадынь мусілі паклапаціцца пра спрадвечны звычай сваіх дзядоў-прадзедаў — садагу. Тут, ля мячэці, былі накрытыя сталы з пачастункам на ўсіх: печыва, садавіна, кампот, іншыя ласункі.

Звычай міласэрнасці, бадай, галоўны ў ісламе, як, дарэчы, і ў хрысціянстве. Гэтую традыцыю па сённяшні дзень не страцілі, не згубілі за 600 гадоў знаходжання побач з іншым рэлігійным атачэннем і захавалі як святыню, як запавет беларускія татары.

На стале была невялікая скрынка для грашовых ахвяраванняў. Не самага высокага наміналу апускаліся туды асігнацыі. Што паробіш — дужа сціплыя пенсіі ў нашых спрацаваных пенсіянераў. Ды і цяперашнім рабацягам на заводзе, настаўнікам, журналістам заробкі, на жаль, выплочваюць не ў цвёрдай валюце. Але кожны, хто тут быў, колькі мог, столькі і паклаў са сваіх "кроўна заробленых". Я ўпэўнена — рабіў гэта шчыра, ад душы — на святую справу. "Что ты спрятал — то пропало, что ты отдал — то твоё"...

Можа, таму і "адарваў" ад сэрца святую кнігу — Кур'ан 1894 года выдання мусульманін з Брэста беларускі татарын Рамазан Ілліч Смольскі. Па гэтай кнізе грамаце ды слову Божаму некалі вучылася яго бабуля, маці, вучыўся ён сам. У Рамазана Ілліча няма дзяцей, каб перадаць кнігу ў спадчыну, і ён падараваў яе ў будучую бібліятэку, якая, думаецца, будзе ў Смілавіцкай мячэці.

Пра адмысловы падарунак для мусульман пасёлка падумала і мінчанка Айша Александровіч, мастак па касцюмах.

— Можа, не ўсе ведаюць, а я вось падлічыла, што сёлета споўнілася 140 гадоў першай мячэці, пабудаванай у Смілавічах, — расказвала на ўрачыстасці спадарыня Айша. — Гэтую мячэць я паказала на сваім мугіры (элемент насценнай аздобы. — **А.Т.**). Адкрыццё мячэці — гэта і знамянальная дата, і вялікае свята. Свята для ўсіх, хто дачакаўся такога шчаслівага дня. На жаль, многія не дачакаліся, як мая маці. Вельмі набожны чалавек, яна ўмела шчыра маліцца і гэтак жыла...

Да адкрыцця мячэці я стварыла мугір, бо мугір ёсць неад'емнай часткай нашага жытла і мячэці. Я магу сказаць, што натхніў мяне на гэтую працу Аллаг. Зрабіла яе за тры дні, але выношвала ў сэрцы тры гады. Тут ёсць надпіс, ён зразумелы, хоць каліграфія, вязь арабская, але напісана моваю, якая нам стала роднаю, па-беларуску: "У імя Аллага міласцівага, міласэрнага".

Міласэрнасць, дабрыня, помач... Гэта звычайна ціхія праявы чалавечай душы, і няма, бадай, слоў, якія б спаўна, вельмі выразна і аб'ёмна паказалі іх сілу. Але ўсё гэта можна адчуць, можна пабачыць, можна ў пэўным выпадку пакратаць рукамі і, не знайшоўшы адпаведнага выказніка ўласным пачуццям, прамовіць толькі адно: дзякуй.

Дзякуй мусульманцы Нурыі з Кувейта, якая ахвяравала беларускім татарам 6 тысяч даляраў і на іх быў куплены зруб на першую мячэць ва ўсходняй Беларусі...

Дзякуй архітэктарам і будаўнікам, дзякуй мясцовым уладам, якія вылучылі пляц пад мусульманскі храм. Хацелася б тут, дарэчы, згадаць яшчэ адну, гістарычную, дэталь. 140 гадоў таму, у жніўні 1856-га, дзве жанчыны, якія жылі ў Смілавічах, сёстры славутага беларуска-польскага кампазітара Станіслава Манюшкі Паўліна і Барбара ахвяравалі пляц (мясцовыя татары ведаюць, дзе гэта) на пабудову мячэці ў гэтым мястэчку. Графіня Замойская, якая жыла паблізу Іўя, у свой час таксама вельмі дапамагла беларускім татарам-мусульманам — яна выдзеліла лес на пабудову Іўеўскай мячэці. Вось вам і роля жанчыны ў ісламе!

У храм, да Бога людзі прыходзяць па-рознаму. Гэта далікатная, вельмі інтымная і няпростая справа. Тым болей цяпер, пасля дзесяцігоддзяў ганенняў, пераследу і жорсткай атэістычнай прапаганды. А вось адлучэнне ад рэлігіі заўсёды ішло зверху і мэтанакіравана. Паслухаем Ісмаіла Ісмаілавіча Меметава:

— Я па нацыянальнасці крымскі татарын. Пачынаючы з далёкаўсходніх межаў прайшоў да Германіі і трыццаць з лішкам гадоў аддаў вайсковаму жыццю. На жаль, не кожны ведае пра лёс маіх суайчыннікаў. Мой народ 18 мая 1944 года быў дэпартаваны са сваёй гістарычнай радзімы, з Крыма, у далёкія неабжытыя мясціны. Цэлыя сем'і загінулі. Маці мая, выгадаваўшы нас сіротамі, таксама памерла на чужыне. Я не магу наведаць яе магілу.

У Крыме некалі было 2700 мячэцяў: усе яны разбураныя. Нашы могілкі раскіданыя і заараныя. У вёсцы, дзе я нарадзіўся, стаяла дзве мячэці — іх няма, знішчаны могілкі, на іх месцы зроблены дарогі. У 1975 годзе сваіх дарослых дзяцей (пяць чалавек) я павёз у родную вёску, хацеў паказаць, дзе я нарадзіўся, рос, аднак нашага дома ўжо не было. На ягоным месцы стаіць трансфарматарная будка. Што для нас цяпер галоўнае? Наша вера. Праўда, не кожны татарын ёсць мусульманін. Мусульманства павінна быць не вонкавае, а ў душы. І ў нашым Кур'ане, нашых малітвах, нашых дуа закладзены галоўныя чалавечыя законы, законы маралі — дабрыня і добразычлівасць. Адкрыццё бажніцы ў Смілавічах дае нам надзею...

Пытаю ў маладой дзяўчыны Аміны з Мінска:

— Як ты лічыш, ці патрэбны мячэці на Беларусі?

— Думаю, што патрэбны, як патрэбны і іншыя храмы — цэрквы, касцёлы. Бо гэта культура, гэта традыцыі народа. Нас не вельмі многа, мо якіх трынаццаць тысяч паводле перапісу 1989 года. Мы называем сябе беларускімі татарамі, і нейкую самабытнасць, адметнасць маем з-за таго, што захавалі рэлігію продкаў — іслам. Мусульманскі храм дапаможа многім з нас адчуць сябе народам, нацыяй, якая не згубілася сярод іншых народаў. Храм дапаможа знайсці месца сваёй душы. На жаль, гэтую ролю для маіх супляменнікаў выконвалі ў канцы жыцця толькі мізары (могілкі). Я не ведаю, ці будзе прыязджаць сюды моладзь, скажам, з Мінска. Моладзь розная, бальшынёю адлучаная ад веры. І гэта не віна наша — гэта наша бяда.

Дзверы мячэці ў Смілавічах адчыненыя...

**Алена ТРУСАВА**

*На здымку: мячэць у г.п. Смілавічы (Чэрвеньскі раён).*

ФЭСТ

# З МУЗЫКАЙ У ДУШЫ

***26-27 кастрычніка ў Мінску адбудзецца Рэспубліканскі фестываль "Іграй, гармонік". З гэтай нагоды наш спецыяльны карэспандэнт Зміцер Волкаў сустрэўся з начальнікам упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, старшынёй аргкамітэта Тадэвушам Стружэцкім і ўзяў у яго інтэрв'ю.***

**— У фестывалі будуць браць удзел народныя калектывы з другіх краін?**

— На жаль, на гэтым фестывалі мы абмежаваны сродкамі. Для таго каб запрасіць калектывы з іншых краін, патрэбны грошы. У нас даўно ёсць жаданне запрасіць замежных музыкантаў, але яны нам ставяць такія ўмовы... што проста немагчыма. На мерапрыемствы мы запрашаем самых цікавых і таленавітых, вышукваем для гэтага фінансы. Што датычыцца творчага ўзроўню фестывалю то я ўпэўнены, што ён будзе высокі. Таму што выступяць і прафесійныя выканаўцы. Больш таго, на гала-канцэрце мы плануем абавязковы ўдзел членаў журы — музыкантаў. Напрыклад, вядомыя гарманісты — Васіль Купрыяненка, Уладзімір Гром, Яўген Бацяноўскі, Алесь Расшчынскі. Людзі, якія цудоўна валодаюць музычнымі інструментамі і якія могуць падарыць людзям добрую музыку. Нашы слухачы атрымаюць магчымасць убачыць той узровень народнага мастацтва, які ёсць у нашай краіне.

Нам бы хацелася зрабіць студыйныя запісы лепшых удзельнікаў фестывалю і падрыхтаваць добрую прафесійную аўдыёкасету. Каб гэтая музыка магла гучаць у нашых дамах. У нашых душах. Выпадак унікальны, калі ў Мінск адначасова прыязджае столькі цікавых, адметных людзей.

**— Спадар Тадэвуш, а ці ёсць у нас дзяржаўныя калекцыі гармонікаў?**

— У будучым музеі гісторыі тэатральна-музычнай культуры будзе гэткая калекцыя. Складзена творчая група па распрацоўцы музея, і яны ўжо збіраюць розныя музычныя інструменты. Ёсць задумы потым выпусціць каталог ці паштоўкі з выявамі гармонікаў.

**— А як Вы ставіцеся да спалучэння розных відаў мастацтва? Напрыклад, акцыя музыкантаў, мастакоў, літаратараў...**

— На практыцы такое спалучэнне і адбываецца. Наш традыцыйны фестываль "Звіняць цымбалы і гармонік" ніколі не абмяжоўваецца толькі музыкай. Звычайна на гэтых фестывалях прадстаўлена ўся палітра народнай творчасці. Канечне, можна было б больш шырока далучыць мастакоў і літаратараў. Напрыклад, на гэты фестываль мы абавязкова запросім паэтаў Ніла Гілевіча і Генадзя Бураўкіна.

**— А выступаюць на Вашых мерапрыемствах людзі-кур'ёзы?**

— На фестывалі "Звіняць цымбалы і гармонік", які праходзіць у Паставах, мы кожны год адкрываем унікальных музыкаў. Напрыклад, у мінулым годзе прыязджаў музыка з Віцебскай вобласці — гэта чалавек-аркестр, які змайстраваў унікальны інструмент: там і барабан, і талеркі, і яшчэ нейкія прыстасаванні. І самародкаў гэткіх у рэспубліцы вельмі шмат. Быў таксама ў Паставах дзіўны, унікальны выпадак — гарманіст, які граў фактычна адной рукой. І гэтак віртуозна!

## РЭСПУБЛІКАНСКІ ФЕСТЫВАЛЬ "ІГРАЙ, ГАРМОНІК"

***У праграме:***

***26 кастрычніка, субота***

*Рэспубліканскі Палац культуры прафсаюзаў (пр.Скарыны, 25)*

**11.00** — Адкрыццё фестывалю

**11.30** — Конкурс індывідуальных выканаўцаў на гармоніку, прыпевачнікаў і ансамбляў гарманістаў

***27 кастрычніка, нядзеля***

*Палац культуры аўтазавода (пр. Партызанскі, 117а)*

**11.00** — Творчая лабараторыя вядучых спецыялістаў, выканаўцаў на гармоніку

**13.00** — Тэатральнае відовішча "А пакуль гармонік грае — беларусы будуць жыць"

**15.00** — Заключны канцэрт і ўзнагароджанне пераможцаў фестывалю

*Даведкі па тэл.: 233-13-36, 233-37-18, 223-73-63.*




*Народны гурт "Фэст" з Баранавічаў — лаўрэат фестывалю"Звіняць цымбалы і гармонік".*

### КАНТАКТНЫЯ ТЭЛЕФОНЫ АРГАНІЗАТАРАЎ:



**СТРУЖЭЦКІ Т.І.,** старшыня аргкамітэта 223-94-13

**АГАРОДНІКАЎ М.П.,** мастацкі кіраўнік 233-37-18

**КУРАШ В.І.,** намеснік старшыні аргкамітэт 221-60-09

**ГАЛУЗА І.П.,** каардынатар фестывалю 233-13-96

## З ГІСТОРЫІ РЭСПУБЛІКАНСКАГА ФЕСТЫВАЛЮ "ІГРАЙ, ГАРМОНІК"

У мэтах адраджэння, развіцця і прапаганды традыцый беларускай інструментальнай музыкі, удасканалення выканальніцкага майстэрства, выяўлення і падтрымкі народных талентаў пяць гадоў запар спачатку арганізацыйна-метадычным Цэнтрам самадзейнай творчасці і культасветработы Савета аб'яднання галіновых прафсаюзаў Мінскай вобласці, затым Упраўленнем культуры Мінгарвыканкама, Мінскім гарадскім арганізацыйна-метадычным Цэнтрам народнай творчасці (у 1992 — 1995 гг. — Цэнтр адраджэння і развіцця беларускай культуры) ладзіліся святы народнага мастацтва "Мінскі гармонік".

Папулярнасць гэтага народнага інструмента ў гледача, высокі ўзровень выканаўцаў спрыялі штогадоваму пашырэнню кола ўдзельнікаў свята. Таму пастановай калегіі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, упраўлення культуры Мінгарвыканкама (12.08 1996 г. №4) традыцыйнаму святу "Мінскі гармонік" нададзены статус Рэспубліканскага фестывалю "Іграй, гармонік".

Арганізатары рады вітаць удзельнікаў фестывалю і запрашаюць мінчан і гасцей сталіцы на цудоўнае свята народнага мастацтва!

**ПЕРАМОЖЦЫ СВЯТАЎ "МІНСКІ ГАРМОНІК— 91, 92, 93, 94, 95"**

***"Мінскі гармонік-91" (20 кастрычніка). Рэжысёр — заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь У.В.Таран.***

Дыпламанты І ступені:

Касцюкевіч М.Р., Раманчук І.М., Саламацін А.Р., Навумовіч С.М., Віннік С.Я.

Дзіцячы ансамбль народнай музыкі "Гармонікі" (кіраўнік —У.Яршоў), ансамбль гарманістаў "Гармонь" Палаца культуры чыгуначнікаў (кіраўнік — І.Раманчук), сямейны ансамбль Ровенскіх.

***"Мінскі гармонік-92" (25 кастрычніка). Рэжысёр — заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь У.В.Таран.***

Дыпламанты І ступені:

Касцюкевіч М.Р., Жэрко П.П., Ешчанка П.А., Слізкі М.І., Дудкін М.Е., Саламацін А.Р., Гергалаў Б.І., Ліхадзіеўская Т.С., Корзун Г.А.

***"Мінскі гармонік-93" (31 кастрычніка — 1 лістапада), рэжысёр — В.І.Бізюк.***

Лаўрэаты: Касцюкевіч М.Р. (г.Мінск), Рубанік М.М. (г.Мсціслаў), Ліхадзіеўская Т.С. (г.Мінск).

Дыпламанты І ступені: Астапчук П.П. (г.Столін), Хадыка М.І. (г.Мінск), Маленчык С.В. (г.Гродна), Дзіягенаў В.В. (г.Мінск)

***"Мінскі гармонік-94" (5 — 6 лістапада). Рэжысёр — В.І.Бізюк.***

Лаўрэаты: Касцюкевіч М.Р. (г.Мінск), Рубанік М.М. (г.Мсціслаў), Навумовіч С.М. (г.Мінск), Дземчанка Т.У. (г.Крычаў).

Дыпламанты І ступені: Жэрко П.П. (г.Мінск), Рабіза М.М. (г.Паставы), Корзун Г.А. (г.Мінск).

***"Мінскі гармонік-95" (21 — 22 кастрычніка). Рэжысёр — В.І.Завіруха.***

Лаўрэаты: Касцюкевіч М.Р. (г.Мінск), Корзун Г.А. (г.Мінск), Чарняўская Я.П. (Віцебская вобласць), Садоўскі Саша (г.Мінск), дзіцячы ансамбль "Гармошка" нацыянальнай школы-гімназіі Заводскага раёна (кіраўнік — Д.Ровенскі).

Дыпламанты І ступені: Астапчук Дзіма (г.Драгічын), Слізкі М.І. (г.Мінск), Свірыдовіч Ф.Я. (г.Мінск), Кудзі В.В. (г.Мінск), Клімовіч А.П. (г.Мінск), Явід А. (Мінская вобласць), Мазнёў Л.П. (Магілёўская вобласць), трыо ансамбля народнай музыкі "Паазер'е" (Пастаўскі раён).

# УДЗЕЛЬНІКІ ФЕСТЫВАЛЮ

**Брэсцкая вобласць:**
Ансамбль гарманістаў — в.Стахава, Столінскі раён,
кіраўнік — Наталля Булыга
Бухта Іосіф Мацвеевіч,
Кожух Іван Міхайлавіч — в.Пяскі, Бярозаўскі раён,
Цюшкевіч Людміла Уладзіміраўна — п.Мухавец, Брэсцкі раён,
Кавалевіч Мікалай Мікалаевіч,
Астапчук Дзмітрый,
Трусава Ніна Рыгораўна — в.Радастава, Драгічынскі раён,
Голік Васіль Пятровіч,
Голік Віктар,
Давідовіч Анастасся Васілеўна — в.Опаль, Іванаўскі раён,
Мігно Іван Мікалаевіч,
Курленя Надзея Аляксееўна,
Басалай Сяргей Іванавіч — в. Обрава, Дамачова, Івацэвіцкі раён

**Віцебская вобласць:**
Ансамбль "Баркавіцкія музыкі" — Верхнядзвінскі раён,
кіраўнік — Генадзь Вашчанка
Новікава Яўгенія Іванаўна,
Шчасная Анжэліка Барысаўна,
Марозава Ніна Уладзіміраўна — Верхнядзвінскі раён,
Казлоў Уладзімір Арцёмавіч,
Казарэўскі Аляксандр,
Боханава Маргарыта — г.Полацк,
Новікаў Дзмітрый Фядотавіч — г.Віцебск



*Удзельнік фестывалю гарманіст з Веткі — Емяльян Бабкоў*

**Гомельская вобласць:**
Ансамбль гарманістаў "Вясёлыя музыкі" — г.Ветка,
кіраўнік — Сцяпан Байдук
Варонін Генадзь Іванавіч — г.Гомель,
Галубіцкая Любоў Аляксандраўна — Чачэрскі раён,
Дамасевіч Канстанцін Іванавіч — Гомельскі раён,
Саломін Аляксандр Аркадзевіч — г.Карма,
Колас Мікалай Мікалаевіч — г.Жлобін,
Бабкоў Емяльян Аўрамавіч — Веткаўскі раён,
Сусолкін Сяргей — Гомельскі раён,
Бахараў Сяргей — Чачэрскі раён,
Коваль Галіна Міхайлаўна — Гомельскі раён,
Юшына Людміла Іванаўна

**Гродзенская вобласць:**
народны ансамбль "Гудскі гармонік",
кіраўнік — Андрэй Колышка
Чарняк Іван Паўлавіч,
Бярнадскі Адам Антонавіч,
Рудзінок Віктар Васілевіч,
Сахонь Леакадзія Віктараўна,
Баборык Ганна Уладзіміраўна,
Луцэвіч Аляксандр Васілевіч,
Жэгалік Насця

**Магілёўская вобласць:**
народны ансамбль гарманістаў "Весялуха" — г.Бабруйск,
кіраўнік — Ігар Карлаў
Рубанік Міхаіл Міхайлавіч — г.Мсціслаў,
Яромаў Мікалай Ягоравіч,
Яромаў Дзмітрый,
Мініцэнка Кацярына — г.Горкі,
Гласкова Алена — г.Горкі,
Вінцарэвіч Алена,
Бараноўская Юлія,
Касцоў Антон — г.п. Бялынічы,
Саладкоў Саша — Дрыбінскі раён

**Мінская вобласць:**
узорны ансамбль народнай музыкі "Пацешкі" — г.Маладзечна,
кіраўнік — Міхаіл Таўгень
Сушко Іосіф Фаміч — г.Маладзечна,
Новікаў Анатоль Аляксандравіч — г.Жодзіна,
Калевіч Іван Міхайлавіч — Пухавіцкі раён,
Сальнік Валерый Паўлавіч — Маладзечанскі раён,
Койпіш Наталля Іванаўна — г.Заслаўе,
Папруга Міхаіл Аляксандравіч — Бярэзінскі раён,
Нячай Зінаіда Віктараўна — г.Заслаўе,
Кароль Сяргей Уладзіміравіч — г.Заслаўе,
Роўба Юрый — Дзяржынскі раён

**г.Мінск:**
Гарманісты:
1. Забуга Васіль Мікалаевіч
2. Катовіч Іван Мікалаевіч
3. Кашэўскі Юліян Іосіфавіч
4. Касцюкевіч Міхаіл Рыгоравіч
5. Раманчук Іван Мікалаевіч
6. Садоўскі Аляксандр
7. Свірыдовіч Фёдар Якімавіч
8. Сіняк Міхаіл Іванавіч
9. Слізкі Міхаіл Іванавіч
10. Юбко Яўген Астахавіч

Прыпевачніцы:
1. Корзун Галіна Адамаўна
2. Кудзі Валянціна Сцяпанаўна
3. Ліхадзіеўская Тамара Станіславаўна
4. Навумовіч Соф'я Маркаўна
5. Пупко Раіса Канстанцінаўна
6. Сцяпанава Марыя Іванаўна
7. Супрановіч Марыя Іванаўна

Ансамблі:
1. Ансамбль "Калі ласка" вытворчага аб'яднання "Мотовело" (кіраўнік Алена Шумская)
2. Ансамбль "Мінскія музыкі" (кіраўнік Дзмітрый Ровенскі)
3. Ансамбль "Гармошачка" нацыянальнай школы-гімназіі Заводскага раёна (кіраўнік Дзмітрый Ровенскі)



*Удзельнік фестывалю Анатоль Новікаў, г.Жодзіна.*

АСОБА Ў КАНТЭКСЦЕ ГІСТОРЫІ



# “ПРА СЯБРОЎСТВА З ВЫСОЦКІМ Я МАЎЧАЎ ШАСНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ...”



***Віктар Тураў. Выдатны беларускі кінарэжысёр. Народны артыст СССР. Народны артыст Беларусі. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР. Акадэмік міжнароднай славянскай Акадэміі. Лаўрэат і прызёр міжнародных і ўсесаюзных кінафестываляў. Лаўрэат прэміі імя Ю.Тарыча. Кіраўнік майстэрні мастацкай рэжысуры Беларускай акадэміі мастацтваў і сцэнарнай майстэрні Беларускага універсітэта культуры. Аўтар такіх вядомых карцін, як “Праз могілкі”, “Я родам з дзяцінства”, “Сыны ідуць у бой” і “Вайна пад дахамі”, “Людзі на балоце” і “Подых навальніцы”, “Пераправа”, “Кропка адліку”, “Нядзельная ноч”, “Жыццё і смерць двараніна Чартапханава”, “Высокая кроў”, “Чорны бусел”, “Шляхціц Завальня” — тры апошнія фільмы сёлета вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Беларусі.***

***Адзін з бліжэйшых сяброў Уладзіміра Высоцкага, ён амаль шаснаццаць гадоў маўчаў пра свае сустрэчы і расстанні з Уладзімірам Сямёнавічам, асцярожна абыходзячы доўгі шэраг успамінаў і мемуараў сваякоў і блізкіх, таварышаў, калег, а таксама сумна вядомых “сяброў”, якіх у Высоцкага пасля ягонай смерці з’явілася безліч. Сярод апошніх, дарэчы, і тыя, хто пры жыцці артыста, мякка кажучы, не вельмі яго шанавалі.***

***Не без цяжкасцяў Барыс Крэпак угаварыў Віктара Цімафеевіча, ягонага даўняга прыяцеля, падзяліцца сваімі няпростымі ўспамінамі пра гэтую неардынарную асобу — Чалавека, Акцёра, Барда.***

**Барыс Крэпак:** Віктар, пасля смерці Высоцкага, асабліва ў год ягонага 50-годдзя, не было, здаецца, ніводнага часопіса, ніводнай газеты, якія б узнёсла не выказваліся пра яго. Па Цэнтральным тэлебачанні паказалі чатырохсерыйны фільм, яму папярэднічаў двухсерыйны і спадарожнічалі аднасерыйныя па некаторых аўтаномных праграмах. Як бы хто ні ставіўся да Высоцкага, нельга не прызнаць, што такі феерычны агульнанародны выбух увагі да лёсу і творчасці паэта і акцёра — з’ява незвычайная.

**Віктар Тураў:** Мне непрыемныя і яго бязмежнае абагаўленне, і ягонае ганебнае прыніжэнне, і брудная мітусня вакол ягонага імя. Як не зразумець, што толькі праўда, прытым поўная, павінна быць сапраўднай памяццю пра Валодзю.

**Б.К.:** Чаму ж ты так доўга маўчаў?

**В.Т.:** Як толькі Валодзя памёр, з усіх кутоў павыпаўзалі на свет боскі цэлыя натоўпы ягоных “прыхільнікаў”, а прасцей кажучы, фальшывых сяброў. Вось тады я даў сабе клятву нічога не казаць у друку пра майго сябра на працягу пяці гадоў. Разам з Валодзем мы з’елі не адзін пуд солі, шмат часу былі побач і да таго, што адбывалася ў нашым грамадстве і наогул у свеце, ставіліся адэкватна, бо ў нас было шмат агульнага. І не толькі ў характарах і агульнасці мастацкіх схільнасцяў і густаў...

**Б.К.:** Вы былі равеснікамі?

**В.Т.:** Валодзя быў маладзейшы за мяне на год і тры месяцы, і мы былі “дзецьмі вайны”. Нас аб’ядноўвала галоднае дзяцінства і не вельмі ўтульнае юнацтва. Адначасова мы скончылі свае "alma mater": я — рэжысёрскі факультэт Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі, ён — акцёрскае аддзяленне школы-студыі Маскоўскага мастацкага акадэмічнага тэатра імя Неміровіча-Данчанкі. А неўзабаве нашыя шляхі перакрыжаваліся на карціне “Я родам з дзяцінства” — і мяркую, што гэтае “перакрыжаванне” было дадзена Лёсам...



**Б.К.:** Такім чынам, ты маўчаў пяць гадоў?

**В.Т.:** Так, сваё абяцанне я стрымаў. І толькі на шосты год пасля смерці Валодзі мяне ўгаварылі штонебудзь распавесці пра нашыя сустрэчы. Гэта адбылося ў Ялце, калі я здымаў “Пераправу”.

**Б.К.:** І хто ж здолеў цябе ўгаварыць?

**В.Т.:** Дырэктар ялцінскага кінатэатра, які ў свой час шмат зрабіў добрага і для мяне, і для Валодзі. А да гэтага я тут, у Ялце, пазнаёміўся з адным карэйцам, цудоўным урачом-іглатэрапеўтам, які разам з жонкай, рускай па нацыянальнасці, вельмі любілі Валодзю. Ягоны брат, які жыў у Швецыі, даслаў яму ў падарунак відэакамеру — на той час рэдкасць. І вось, згодна з просьбай дырэктара кінатэатра, я ўпершыню перад вялікай аўдыторыяй выступіў з успамінамі пра Валодзю. Адзначу, што ніколі ў жыцці я не атрымліваў з залы столькі пытанняў! І менавіта гэтая сустрэча, якая доўжылася каля трох гадзін, была знята гэтай відэакамерай на касету.

**Б.К.:** Ці захавалася касета?

**В.Т.:** Захавалася. Самае цікавае тое, што першую палову касеты карэец здымаў сам, так бы мовіць, выпрабоўваў новую тэхніку, але, баючыся сапсаваць, папрасіў майго аператара Валодзю Спарыжкова дазняць яе. На шчасце, атрымалася ўсё даволі прафесійна. Потым гэтую відэакасету мне падарылі пад “слова гонару” нікому да пэўнага часу не паказваць...

**Б.К.:** І потым ты зноў замаўчаў...

**В.Т.:** Дакладна на дзесяць гадоў. Усё трымаў у сабе, усярэдзіне... Безумоўна, вельмі шкадую і лаю сябе за легкадумнасць, што нешта не занатаваў па жывых слядах памяці, нешта не здолеў запомніць. І не таму, што не разумеў, хто са мною побач. Я і тады бачыў, што Бог адарыў Высоцкага не толькі выбітным талентам, не толькі любоўю да сваёй зямлі і людзей, якім ён аддаў усё — і песні, і фільмы, і спектаклі, але і няпростым Лёсам.

**Б.К.:** Так, Высоцкі нямала пачуў у розныя часы чыноўных вокрыкаў і добра сфабрыкаванага цкавання, але дажыў да самай сапраўднай славы. Менавіта славы — не проста папулярнасці, таму што цябе ведаюць, любяць і слухаюць не толькі па “усёй Маскве”, але і на ўсіх паралелях і мерыдыянах Савецкага Саюза...

**В.Т.:** Не кажучы ўжо пра Парыж, Нью-Ёрк, Варшаву, Сафію і Таронта, дзе таксама, уяві сабе, пры ўзгадванні ягонага імя святлелі твары. Але хіба можна было меркаваць, што ён, адораны моцным прыродным здароўем, пойдзе з жыцця так рана?

**Б.К.:** Мабыць, такія людзі не могуць жыць доўга. Яны пражываюць жыццё больш эмацыйнае, больш пакутнае, больш напружанае, чым простыя смяротныя. Боль іншых — іхні боль. А з параненым сэрцам хіба доўга вытрываеш?

**В.Т.:** Жуль Рэнар некалі сказаў пра аднаго з французскіх калег: каб зразумець, які ён таленавіты, трэба ўявіць яго памерлым. Наогул гэта можна аднесці да кожнага чалавека мастацтва...

**Б.К.:** Калі б у паўсядзённым жыцці людзі ўлічвалі гэты прынцып, дык, відавочна, не было б такіх шматлікіх заўчасных страт. У тым ліку і тваіх блізкіх сяброў-таварышаў па мастацтве — Высоцкага, Шпалікава, Шукшына, Бабкаўскаса. Але, маючы стасункі з рэальнымі, “жывымі” людзьмі, мы проста забываемся на тое, што ёсць мяжа чалавечых сіл...

**В.Т.:** Ты маеш рацыю. Валодзя, сапраўды, жыў на мяжы чалавечых магчымасцяў. Ён паспяваў літаральна ўсё — і іграць на сцэне, і працаваць на здымачнай пляцоўцы, і ўзнімаць у авацыях аўдыторыі падчас канцэртаў, і ствараць песні. Менавіта песні, не падобныя ні да каго, выбухныя і вясёлыя, сумныя і трагічныя, раздзіраючыя душу, разбураючыя ўсе звыклыя эстэтычныя каноны, зрабілі яго самым папулярным бардам 60 — 70-х гадоў. І не страцілі свайго значэння дасюль. Высоцкі вярнуў песні мужчынскі пачатак: тэмбр, выпрабаванне на злом, надзейнасць. А галоўнае, што было ў Валодзі, паэта экстрэмальных сітуацый і супрацьстаянняў, — пачуццё прыналежнасці да спраў і клопатаў сучаснікаў.

**Б.К.:** Увогуле кажучы, гісторыя ўзаемаадносінаў песень Высоцкага з кінематографам, у прыватнасці, з тваімі карцінамі, выклікае ў мяне вялікую цікавасць, таму што тут не ўсё так проста. Нават блізкія яму людзі сёння не могуць дакладна аднавіць гісторыю з’яўлення той ці іншай песні да таго альбо іншага фільма. Што да цябе, дык сам Высоцкі аднойчы прызнаўся: “Самыя першыя мае ваенныя песні былі напісаны для карціны Віктара Турава “Я родам з дзяцінства”. Ды і Марына Уладзі нібыта паўтарае за ім, узгадваючы паездку на Навагрудчыну, да цябе. У сваёй кнізе “Уладзімір, або Перарваны палёт” яна піша, што і тады, калі ты ўжо здымаў свае наступныя фільмы паводле твораў Алеся Адамовіча, у Высоцкага “нарадзіліся тэмы большасці... песень ваеннага цыкла”.

**В.Т.:** З гэтай нагоды я хачу зрабіць некаторыя тлумачэнні. Сапраўды, Валодзя напісаў некаторыя свае песні для карціны “Я родам з дзяцінства” — “Халады, халады”, “Вышыня”, “У шпіталі”... З песні Высоцкага (“Вцепились они в высоту как в свое...”) у фільм увайшоў фрагмент і выконваўся на мелодыю “Раскінулася мора шырока”. Песня ж “У шпіталі” (“Жил я с матерью и батей...”) у карціну не ўвайшла, хаця Валодзя вельмі хацеў яе выканаць...

**Б.К.:** А “Зоркі” і “Штрафныя батальёны”?

**В.Т.:** “Зоркі”, альбо “Падаюць зоркі”, была напісана раней і спачатку меркавалася Валодзем для спектакля Тэатра на Таганцы “Загінуўшыя і жывыя”, але не ўвайшла. Ну, а затым фрагмент песні я выкарыстаў у сваёй карціне. Памятаеш?

*“Мне этот бой не забыть нипочем,*
*Смертью пропитан воздух,*
*А с небосклона бесшумным*
*дождем*
*Падали звезды...”*

Аналагічная гісторыя адбылася і з песняй “Брацкія магілы”, якая таксама прызначалася для спектакля “Загінуўшыя і жывыя”, але з нязначнай дапрацоўкай ўвайшла ў фільм “Я родам з дзяцінства”, праўда, у выкананні Марка Бернеса. Што да “Штрафных батальёнаў”, дык я выкарыстаў толькі фрагмент песні, якую Валодзя напісаў пару гадоў таму.

**Б.К.:** А знакамітыя песні Высоцкага да фільма “Вайна пад дахамі”?

**В.Т.:** “Песня пра новы час” (“Как призывный набат, прозвучали в ночи тяжело шаги...”) і “Буслы” былі напісаны менавіта для маёй карціны. Памятаю такі варыянт пачатку “Буслоў”, які мала каму вядомы: “Неба этого дня — Ясное, Но... под небом броня — Лязгает, А по нашей земле Стон стоит — Благо, стены в Кремле — Толстые”.

**Б.К.:** Так альбо інакш, упершыню ягоныя ваенныя песні прагучалі з экрана менавіта ў тваіх фільмах. І, такім чынам, ты нібы афіцыйна адкрыў Уладзіміра Высоцкага для мільёнаў людзей як паэта, кампазітара і выканаўцу.

**В.Т.:** Атрымліваецца, што так. Гэтым і ганаруся, хаця і шкадую, што мог бы выкарыстаць ягоны талент значна болей.

**Б.К.:** Тваё шматгадовае сяброўства з Высоцкім пачалося з карціны “Я родам з дзяцінства”. Як адбылося знаёмства?

**В.Т.:** Гэтая карціна была маёй другой мастацкай поўнаметражнай стужкай пасля фільма “Праз могілкі”, хаця сцэнарый мой блізкі сябар Гена Шпалікаў напісаў раней, чым я зняў “Праз могілкі” паводле твора Паўла Ніліна. І вось ужо скончылі падрыхтоўчы перыяд, правялі акцёрскія выпрабаванні і зацвердзілі акцёраў. А аператарам карціны быў Саша Княжынскі. Масквіч, мой равеснік, ён скончыў Усесаюзны дзяржаўны інстытут кінематаграфіі па майстэрні нябожчыка Барыса Волчака, пасля чаго разам са сваім сябрам Мішам Ардаб’еўскім быў размеркаваны на Свярдлоўскую кінастудыю. Там яны працавалі ў не вельмі ўтульнай атмасферы ў навукова-папулярным кіно.

**Б.К.:** Гэта той самы Ардаб’еўскі, які затым зняў “Служылі два таварышы” і “Карону Расійскай імперыі”?

**В.Т.:** Той самы. Праз некаторы час рэжысёр Валянцін Вінаградаў, таксама выпускнік гэтай ВНУ, які працаваў на “Беларусьфільме”, запрасіў Княжынскага і Ардаб’еўскага ў Мінск і разам з імі зняў карціны “Лісты да жывых” і “Горад майстроў”. А ўжо потым я прапанаваў Сашу Княжынскаму папрацаваць над карцінай паводле сцэнарыя Шпалікава “Я родам з дзяцінства”. Дарэчы, пазней ён зняў “Восень”, “Падранкі”, “Сталкер”, карацей, вельмі таленавіты аператар...

**Б.К.:** А да таго часу Высоцкі быў ужо вядомай асобай?

**В.Т.:** У пэўнай ступені. Асабліва ў акцёрскіх колах. Але па Маскве ўжо пра яго хадзілі чуткі як пра аўтара і выканаўцу песень “Вялікі Карэтны”, “За хлеб і ваду”, “Пра Сярожку Фаміна”, “Антысеміты”, “Салдаты групы “Цэнтр”, “Нейтральная паласа”. І вось гэты самы Саша Княжынскі ведаў троху Высоцкага. Ён і прапанаваў мне запрасіць яго на выпрабаванні. Маўляў, пазнаёмішся з ім, паслухаеш, ён жа акцёр-прафесіянал, іграе ў новым Тэатры драмы і камедыі на Таганцы, ды і ў кіно не пачатковец...

**Б.К.:** А што ён сыграў да гэтага, акрамя “Кар’еры Дзімы Горына”?

**В.Т.:** Ну, наколькі я памятаю, былі карціны “Звальненне на бераг”, “Грэшніца”, “Саша-Сашачка”, “Штрафны ўдар”, штосьці яшчэ... Праўда, ён некага падмяняў, але затое ўмеў ствараць здзіўляюча добрую атмасферу на здымках і пасля іх, асабліва ў экспедыцыях. Калі ўсе стамляюцца, ён мог сваёй песняй, экспромтам, усмешкай, жартам узняць настрой і творчы тонус.

*(Працяг будзе)*

ЗАМЕСТ КРОПКІ



# ПАЧУЦЬ ЧАЛАВЕКА

Я вяртаўся з хаўтур і ўзгадваў нашу апошнюю сустрэчу з ім і яго адчайнае: "Апакаліпсіс! Усе вінаватыя! І я — больш за іншых!.." Але толькі цяпер, калі гэта здарылася, я зразумеў: гэта быў крык адчаю, але я яго не пачуў. Чаму?

Я ж ведаў і бачыў, што адбывалася з ім...

Ён быў мне дарагім і блізкім, але нашыя стасункі я не назваў бы сяброўствам. У кожнага з нас да сустрэчы ўжо даўно склаўся і лад жыцця, і кола сяброў. Калі я прыйшоў працаваць у Беларускі ліцэй мастацтваў, дзе ён выкладаў у класе скрыпкі, мы з першых дзён пацягнуліся адзін да аднаго.

Сустракаліся на працы, вялі будзённыя размовы. Ён распавядаў пра праблемы ліцэя, пра сваіх вучняў, перажываў за кожнага. І быў перакананы, што толькі мастацтва здольнае стварыць шчаслівых людзей. Пасля заняткаў мы часта блукалі па горадзе, ажыўлена размаўляючы. Тэмы нашых гутарак задаваў ён: пра мастацтва, пра ягонае месца ў жыцці, пра людзей. Ён ганарыўся тым, што дзякуючы асаблівай мове музыкі асабіста ён "абыходзіць" нашу цэнзуру і шчыра нясе людзям праўду.

Звычайна ён схамянаўся першым, прасіў прабачэння, развітваўся і спяшаўся на рэпетыцыю ў Палац культуры прафсаюзаў, дзе кіраваў народным ансамблем скрыпачоў.

Я пачаў наведваць іхнія канцэрты. І хаця ў аркестры ў асноўным ігралі не прафесіяналы, іх вечарыны былі цікавымі. У перапынках паміж музычнымі нумарамі мастацтвазнаўца Кірыл Зеляны чытаў лекцыі пра мастакоў, чые творы былі сугучны выконваемай музыцы. Усе пачуваліся аднадумцамі падчас гэтых рэдкіх і добрых святаў жыцця.

Барыс Саламонавіч Моткін быў арганізатарам і нязменным мастацкім кіраўніком ансамбля, дзе ігралі інжынеры, рабочыя, служачыя, студэнты ВНУ. Для іх музіцыраванне сталася формай духоўных стасункаў, а для гледачоў — шчаслівым знаёмствам з шэдэўрамі музычнай сусветнай класікі і лепшымі ўзорамі беларускай музыкі.

Музыканты прыходзілі на рэпетыцыі ўвечары, пасля працоўнага дня, і доўгія гадзіны аддавалі чарнавой працы. Часта разыходзіліся позна ноччу. Спачатку яны ігралі нібыта для сябе, потым пачалі запрашаць сваякоў, сяброў, знаёмых. Умацаваўшыся, ансамбль пачаў даваць рэгулярныя бясплатныя канцэрты для ўсіх жадаючых — "Вечары ў гасцёўні". Дэбютавалі яны ў снежні 1967 года і неўзабаве сталі лаўрэатамі І Усесаюзнага фестывалю самадзейнай мастацкай творчасці. Іх запрашаюць навучальныя ўстановы, заводы, установы Беларусі, Прыбалтыкі, Закаўказзя. Яны з поспехам удзельнічаюць у многіх фестывалях і конкурсах, наладжваюць сумесныя выступленні з майстрамі беларускай музычнай культуры.

Гучалі творы Баха і Моцарта, Вівальдзі і Пёрсела, Чайкоўскага і Рахманінава, Пракоф'ева і Шастаковіча. З кожным годам узбагачаўся рэпертуар ансамбля і формы правядзення канцэртаў. Многія творы выконваліся ў Мінску ўпершыню. Прайшлі вечарыны памяці Шуберта, Баха, Рафаэля, італьянскай музыкі эпохі Адраджэння, старажытнага рускага раманса ў выкананні салісткі ансамбля Тамары Чабурок. Гучалі мелодыі пушкінскага часу.

На працягу двух гадоў (1986-87 гг.) быў праведзены цыкл лекцый-канцэртаў "Лісты рускіх мастакоў" — паводле эпісталярнай спадчыны мастакоў XIX — XX стагоддзяў.

Часта ў якасці саліста ансамбля выступаў лаўрэат міжнароднага конкурсу імя Д.Ойстраха, вядомы скрыпач, вучань Моткіна, Міхаіл Гершовіч, якога Цемірканаў запрасіў у свой аркестр.

Многія прафесійныя музыканты ахвотна бралі ўдзел у канцэртах гэтага ансамбля, сярод іх — Рыгор Дабржынец, саліст Беларускай філармоніі. Здаралася, Барыс Моткін, адклаўшы дырыжорскі кіёк, выконваў на скрыпцы першую партыю. Ён быў вучнем Брацейнікава, які вучыўся ў вядомага скрыпача-педагога Юрыя Янкелевіча, узгадаваўшага многіх слынных музыкантаў.

Да стварэння свайго ансамбля Барыс Моткін іграў у Беларускім сімфанічным аркестры, але адмовіўся ад гэтай працы і ўсяго сябе прысвяціў ансамблю.

Ягоныя вечарыны дапамагалі слухачам дакрануцца да таямніц мастацтва, узнікаў дыялог пра хараство і мудрасць свету, пра дабрыню і міласэрнасць, пра сапраўдныя каштоўнасці жыцця. Канцэрты ансамбля сталі і для горада, і для рэспублікі часткай культурнага жыцця, яе набыткам. Моткіна падтрымалі і ўхвалілі Рыхтэр, Ойстрах, Трацякоў, Співакоў, якія мелі з ім сяброўскія стасункі.

Для мяне ж гэтыя канцэрты, якія я ахвотна наведваў, стваралі своеасаблівыя перашкоды для збліжэння з Моткіным. На працы мы былі раўнапраўнымі калегамі. Але калі я бачыў яго за дырыжорскім пультам у фраку і з адухоўленым тварам — гэта было зусім іншае. Ён называў мяне сваім сябрам, быў просты, мяккі, добразычлівы, але непрадказальны ў сваім настроі.

Перабудова ў краіне натхніла яго: "Ужо не верыў! Але вось — дажыў! Надакучлівы голас "прараба" ўладна прамаўляў, што "працэс пайшоў". Але абставіны жыцця гэтага не пацвярджалі: дзяржава развальвалася. Пачуліся першыя стрэлы і смерць стала статыстыкай. Краіна залівалася крывёю. Моткін запоем чытаў прэсу, слухаў радыё, глядзеў тэлевізар і адкрыта лаяў урад. Усё ўражвала ягоную далікатную, чулую душу.

Калі адбылося крывавае 9 красавіка ў Грузіі, ён сказаў: "Вось да чаго давяла сістэма амаральнасці! Хлапчук у форме савецкага салдата сапёрнай лапаткай забівае шаснаццацігадовую дзяўчыну. Яна выйшла на плошчу са сваім народам адстойваць волю. А хлопчык, які паводле законаў прыроды павінен быў упасці на калені перад прыгажосцю і быць яе верным рыцарам..." — вочы яго напоўніліся слязьмі.

Рушылася імперыя.

У Вільнюсе жыла дачка Барыса, якая была замужам за літоўцам. Хвалюючыся за лёс адзінага дзіцяці, Моткіны вырашаюць пераехаць да яе. Увогуле Барыс ніколі не расказваў пра сваё сямейнае жыццё. Яго цяжка было ўявіць у побыце. Аднойчы былы вучань пачаставаў Барыса воблай. Мы купілі піва і зайшлі да Моткіна... Ён доўга шукаў на ўласнай кухні шклянкі і нажы.

Развітваючыся з сябрамі, Барыс расплумачваў: "Я веру, што менавіта там неўзабаве будзе дэмакратычнае грамадства. Мне так мала засталося жыць, а я хачу так многа паспець..."

У Вільнюсе ён працаваў выкладчыкам у музычнай школе імя Дварыёніса, стварыў аркестр і вельмі хутка заваяваў аўтарытэт сярод мясцовай інтэлігенцыі. А ягоны мінскі ансамбль прыязджаў у Вільнюс і даваў канцэрты. І гэта заўсёды было адметнай падзеяй у культурным жыцці дзвюх рэспублік. Барыс часта прыязджаў у Мінск, сустракаўся з сябрамі, дапамагаў ансамблю, шмат і захоплена распавядаў пра Літву, яе культуру, народ, які мужна вядзе барацьбу за волю і стварэнне цывілізаванай дзяржавы.

Калі літоўцы паўсталі і выйшлі на вуліцы, патрабуючы, каб акупанты пакінулі Літву, супраць мірнай дэманстрацыі ўлады кінулі войскі і танкі. Барыс быў уражаны, а ў ягонай жонкі зрабіўся інсульт, і яна стала інвалідам. Моткін успрымае гэтае гора як пакаранне за тое, што ён пакінуў сваю Беларусь у бядзе. І каб загладзіць грэх, ён вырашыў вярнуцца ў Мінск. Прыйшоў у ліцэй, але адміністрацыя растлумачыла яму, што месцаў няма, і да таго ж ён — грамадзянін іншай дзяржавы. Ні просьбы, ні заслугі не дапамаглі. У адчаі Моткін абыходзіць усіх сяброў і развітваецца з імі.

Калі я пачаў яго супакойваць і казаць пра заканамернасць таго, што адбываецца, ён перапыніў мяне: "Жыць далей не мае сэнсу! Надышоў час расплаты за зробленае. Усё ідзе паводле Бібліі — Апакаліпсіс! Усе вінаватыя. А я — больш за іншых. Не хачу больш удзельнічаць у гэтым Садоме!"

Было балюча на яго глядзець... Праз некалькі дзён у маёй кватэры пачуўся тэлефонны званок: дачка Барыса Моткіна паведаміла, што бацька скончыў жыццё самагубствам.

Толькі цяпер я пачынаю разумець пачуццё, якое ахоплівала мяне, калі я слухаў ягоныя апошнія канцэрты: людзі толькі тады прыйдуць да згоды і шчасця, калі будуць разумець адзін аднаго, калі запавет "любі блізкага, як самога сябе" будзе нормай жыцця. Толькі зараз, узгадваючы Барыса, я пачынаю разумець: галоўнае ў жыцці — пачуць чалавека.

Мінула пяць гадоў.

Сёлета ансамблю камернай музыкі, створанаму Барысам Моткіным, спаўняецца 30 гадоў. І 35 — Беларускаму ліцэю мастацтваў. І толькі пасля смерці Моткіна я даведаўся, што ён быў адным з ягоных стваральнікаў і першым завучам музычнага аддзялення.

... У лістападзе на магіле Барыса адбудзецца адкрыццё помніка, які на свае ўласныя сродкі пабудаваў нязменны стараста ансамбля Міхал Панас. Гэты помнік — даніна павагі настаўніку і сябру. Сёння ансамблем кіруе лаўрэат міжнароднага конкурсу Якаў Гелер, таксама вучань Б.Моткіна. Аркестр жыве і радуе слухачоў высокай і светлай музыкай, працягваючы высакародную справу, пачатую Настаўнікам — Барысам Саламонавічам Моткіным.

Магіла ягоная ў іншай дзяржаве, але душа засталася з намі.

У лістападзе адбудуцца вечарыны памяці Барыса Моткіна ў Камернай зале Палаца культуры прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь і ў Беларускім ліцэі мастацтваў.

**Барыс РОЛАНД**


КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА - АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Алег КАМІНСКІ**

Рэдакцыйная калегія:
**Валянцін АКУДОВІЧ, Арсен ВАНІЦКІ, Андрэй ВАШКЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара — адказны сакратар), Валерый ГЕДРОЙЦ, Уладзімір ГІЛЕП Ніна ЗАГОРСКАЯ, Сяргей ЗАКОННІКАЎ, Вольга ІПАТАВА, Людміла КРУШЫНСКАЯ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Анатоль КУДРАВЕЦ, Мікола КУПАВА, Валерый СКВАРЦОЎ, Алег ТРУСАЎ, Віктар ТУРАЎ, Васіль ШАРАНГОВІЧ**

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Камп'ютэрная вёрстка — **Ірына ДЗІВІНА**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1,
Тэлефон: 76-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.
Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.
Падпісана ў свет 11.10.96. у 18.00.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.
Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3. Індэкс 63875
Агульны наклад 2880
Замова
Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79.
**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**